
Святлапіс Лявона → 3

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714


Студзіводы Сегяневічаў → 12

http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

№ 40 (3203) Год LXII

Беласток, 1 кастрычніка 2017 г.

Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)


Размова з **Іаннай КАЛІНОЎСКАЙ** — дырэктар Пачатковай школы № 3 з дадатковым навучаннем беларускай мовы імя Яраслава Кастыцэвіча ў Бельску-Падляшскім

**— З першага верасня Вы кіруеце школай, пры якой спыняе працу гімназія. Якія Вашы першыя ўражанні ад кіравання самай вялікай пачатковай школай у горадзе?**

— Уражанні ў мяне вельмі добрыя. Бацькі тут сімпатычныя, ахвотныя да супрацоўніцтва, настаўнікі дапамагаюць мне, у школе добрая атмасфера.

**— Што схіліла Вас прыступіць да конкурсу на дырэктара якраз бельскай «тройкі»?**

— У бацькоўскім доме мы размаўлялі на дыялекце беларускай мовы, а мая мама працавала настаўніцай і вучыла спачатку расійскай і беларускай мовам. Я сама не вучылася ў «тройцы», але мой сын тут вучыўся. Пасля паступіў ён у Бельскі белліцэй, а мая дачка тут вучыцца надалей. Я ведала беларускі характар школы і яе адметнасці на фоне іншых бельскіх школ. Зрабіла я свядомы выбар, прыступаючы да конкурсу на дырэктара «тройкі», каб пасля працаваць у карысць школы і захавання нашымі вучнямі беларускай нацыянальнай тоеснасці. Я выпускніца гістарычнага факультэта Універсітэта ў Беластоку і магу вучыць у школе гісторыі, а закончыўшы паслядыпломную адукацыю магу таксама вучыць ведам аб грамадстве, выхаванні да жыцця ў сям'і і займацца з дзеткамі па раннешкольнай адукацыі.

> Маю я намер зрабіць стаўку на навучанне беларускай мове, культуры і знаёмству вучняў з традыцыямі і мясцовай гісторыяй, каб падтрымліваць беларускую тоеснасць сярод дзетак і моладзі...



# Новая дырэктар бельскай «тройкі»

**— Амаль год выконваючай абавязкі дырэктара школы была Барбара Скепка. Члены конкурснай камісіі далі Вам больш галасоў, чым для яе і бургамістр Бельска-Падляшскага Яраслаў Бароўскі прызначыў Вас на пасаду дырэктара на двухгадовы тэрмін. Ці ведаеце чаму Вы атрымалі прызначэнне толькі на два гады?**

— Звычайна на пасаду дырэктара школы прызначаюць на пяцігадовы тэрмін, а скарачаецца ён, калі школа мае спыніць дзейнасць або дырэктар мае намер адысці на пенсію. У маім выпадку не было такіх прычын. Я ведаю абгрунтаванне рашэння аб прызначэнні мяне на двухгадовы тэрмін, але не хачу яго агучваць і каментаваць.

**— Конкурснай камісіі Вы запрапанавалі планы дзейнасці васьмігадовай пачатковай школы з дадатковым навучаннем беларускай мовы. Якія Вашы прапановы ў сувязі з беларускім характарам школы і ў агульным плане дзейнасці бельскай «тройкі»?**

— Маю я намер зрабіць стаўку на навучанне беларускай мове, культуры і знаёмству вучняў з традыцыямі і мясцовай гісторыяй, каб падтрымліваць беларускую тоеснасць сярод дзетак і моладзі. У нашай школе падчас свята школы і іншых мерапрыемстваў будзе прэзентавацца беларуская культура, песні, дэкламацыі і іншае. Хачу супрацоўнічаць з беларускімі арганізацыямі, якія дзейнічаюць у карысць нашага насельніцтва і пачатковымі школамі ў Гайнаўцы, Орлі, Кляшчэлях і іншых мясцовасцях, дзе вядзецца навучанне беларускай мове. Прадбачваю арганізаваць экскурсіі ў Беларусь. Планую, што наша школа прыступіць да еўрасаюзнай праграмы «Erasmus+», накіраванай да моладзі. Калі гаварыць у агульным, маю намер звярнуць асаблівую ўвагу, каб у школе, так як было ў папярэдніх гадах, быў высокі ўзровень навучання, а вучні дабіваліся поспехаў у конкурсах і алімпіядах. У нашай школе працуюць вопытныя настаўнікі фізкультуры, якія з вучнямі дабіваліся многіх поспехаў падчас спартыўных спаборніцтваў і мы будзем прадаўжаць гэтыя традыцыі.

**— Рэформа адукацыі, якая ажыццяўляецца з 2017 года, гэта між іншым мадыфікаваныя праграмныя падставы навучання для першага, чацвёртага і сёмага класаў пачатковай школы. Як справа з новымі падручнікамі і дапаможнікамі?**

— У нашых вучняў ёсць ужо неабходныя падручнікі і дапаможнікі.

**— Ці гэта тычыцца таксама падручнікаў па беларускай мове?**

— Настаўнікі беларускай мовы сказалі мне, што ва ўсіх вучняў ёсць падручнікі па беларускай мове. Аднак частка іх выкарыстоўвалася доўгі час, яны ўжо знішчаны і добра было б надрукаваць новыя. Праграмная падстава для навучання беларускай мове ў сёмым класе пачатковай школы такая ж, як для першага класа гімназіі і таму сямікласнікі пачалі карыстацца гімназічнымі падручнікамі.

**— Ці рэформа адукацыі дае новыя магчымасці для пашырэння ведаў па беларускай культуры, гісторыі, традыцыях?**

— У сёмым класе ўводзім новы прадмет — гісторыя беларускай культуры, на ўроках якога настаўнік будзе знаёміць вучняў з беларускай культурай. Гэта новая прапанова, якая раней была на ўзроўні ліцэя. У агульным рэформа адукацыі прадбачвае большую стаўку на выхаванне вучняў, чым дагэтуль і на арганізаванне дзейнасці школы так, каб яна была яшчэ больш бяспечнай.

**— У адпаведнасці з рэформай адукацыі спыняюць дзейнасць гімназіі, у тым ліку ваша гімназія з дадатковым навучаннем беларускай мовы, у якой моладзь вучыцца ўжо толькі ў другіх і трэціх класах. Праз два гады будзе ўжо дзейнічаць у вас толькі васьмігадовая пачатковая школа, не будзе дзявятага класа, якім дагэтуль быў трэці клас гімназіі і таму скароціцца колькасць гадзін працы для настаўнікаў. Ці маеце намер рабіць намаганні, каб павялічыць колькасць навучэнцаў і аддзелаў у школе?**

— Высокі ўзровень навучання ў нашай школе, пазаўрочныя заняткі і іншыя ініцыятывы, якія садзейнічаюць фармаванню беларускай нацыянальнай тоеснасці нашых вучняў, павінны спрычыніцца да яшчэ большага прызнання нашай школы ў грамадстве і яшчэ большай зацікаўленасці бацькоў вучобай іх дзетак у нашай школе. Мы, усе настаўнікі, будзем працаваць на яшчэ большае прызнанне нашай школы ў грамадстве. Думаю, што трохгадовы ліцэй — гэта надта кароткі перыяд, каб добра падрыхтаваць вучняў да матуральнага экзамену. Чатырохгадовы ліцэй будзе лепшай прапановай для выпускнікоў нашай школы ў будучыні.

**— У «тройцы» вучні здаўна займаліся ў музычных і вакальных калектывах, якія выступалі на беларускай літаратурнай мове. Апошнім часам «Жэўжыкі» прэзентуюць беларускі фальклор, абрады, песні, прымаўкі на мясцовым дыялекце і паказваюць даўнія народныя танцы.**

— Надалей будуць дзейнічаць у нашай школе беларускія калектывы, з якімі займаюцца Анна Вярцінская і Іаанна Хількевіч. Маю намер садзейнічаць, каб яны яшчэ больш, чым дагэтуль, выступалі па-за школай, перад публікай Бельска-Падляшскага і па-за ім. Неабходна, каб вучні знаёміліся з нашымі традыцыямі. Калектыў «Жэўжыкі», якім апякуецца Анна Фіёнік, надалей будзе займацца прэзентацыяй абрадаў, песень і танцаў перад школьнай і пазашкольнай публікай. Нашы вучні з дапамогай настаўнікаў будуць рыхтавацца і прымаць удзел у Конкурсе беларускай песні, выступаць па-беларуску на тэатральным аглядзе для школьнікаў.

**— Вучні бельскай «тройкі» паспяхова ўдзельнічалі ў дэкламатарскім конкурсе «Роднае слова».**

— Будзем працягваць гэтую традыцыю. Вучні будуць удзельнічаць таксама ў дэкламатарскім конкурсе «Паэтычнае трохгалоссе», ладжаным Бельскім домам культуры. Так як па іншых прадметах, будуць дзейнічаць у нашай школе гурткі беларускай мовы, якія будуць рыхтаваць вучняў да ўдзелу ў прадметным конкурсе беларускай мовы і да выступаў на роднай мове.

**— Вучні Вашай школы заказвалі многа экзempляраў «Нівы», чыталі яе і прымалі ўдзел у Сустрэчах «Зоркі», якія здаўна паспяхова ладзіць Ганна Кандрацюк-Сврубская.**

— Маем намер працягваць супрацоўніцтва з вашым тыднёвікам. Вучні будуць заказваць, чытаць «Ніву» і прымаць удзел у Сустрэчах «Зоркі», паколькі гэта цікавы практычны спосаб азнаямлення з журналісцкай справай.

**— Дзякую за размову і жадаю поспехаў вучням, настаўнікам бельскай «тройкі» і Вам у працы на пасадзе дырэктара школы.**

Гутарыў **Аляксей МАРОЗ**


9 770546 196000



# „Алес нармалес”

альбо

## Выбары без альтэрнатывы

Палітычна ангажаваная частка нашага грамадства часта любіць наракаць на тое, што ўжо больш дваццаці гадоў беларусы не маюць магчымасці выбару, бо ўласна выбараў у дэмакратычным разуменні слова ў краіне фактычна няма. Апошнім часам прыйшоў я, аднак, да высновы, што яго — сапраўднага выбару, няма амаль нідзе. Мы жывем у век інфармацыйных тэхналогій і палітычных маніпуляцый, у век, калі яны відавочна пераважаюць і перамагаюць нейкія ідэалогіі і маральныя прынцыпы. Пра мараль у палітыцы зараз і гаварыць смешна. І як тут і каго выбіраць? Расейская прымаўка гаворыць, што „из двух зол выбирают меньшее”. Нібыта ёсць на гэты конт англійскае выслоўе з адваротным сэнсам, што са зла і выбіраць нельга. Ёй адпавядае і беларуская лаканічная фразема „абое рабое”. Да чаго гэта я вяду? Вось у мінулую нядзелю праходзілі выбары ў нямецкі Бундэстаг. Фактычна абіраўся не толькі парламент гэтай вялікай краіны, але і вызначалася бліжэйшая палітычная будучыня ўсяго Еўрасаюза. Ізноў з запасам, хоць і з меншым адрывам, чым прагназавалася, перамог блок цяперашняй канцлер Ангелы Меркель. Палітычную сілу на чале з ёй называюць кансерватыўнай, ці хрысціянска-дэмакратычнай. Менавіта называюць, бо яна такой даўно не з'яўляецца. Дастаткова прыгадаць нядаўняе галасаванне ў Бундэстагу па аднаполых шлюбах і праве такіх пар усынаўляць дзяцей. Тады значная частка гэтых „кансерватараў-хадэкаў” галасавала не паводле ідэалогіі партыі, а па заклiку канцлера галасаваць „па сумленні”. А вось я ніяк не магу зразумець — як ідэалогія партыі, у якой ты знаходзішся, можа разыходзіцца з тваім сумленнем. Нейкае раздваенне ў галаве! Тут як у народным выслоўі: „Вы ўжо альбо крыжык здыміце, альбо майткі надзеньце!”.

Другое месца ў Германіі заняла нібыта апазіцыйная Сацыял-дэмакратычная партыя. Тут таксама ўсё ясна: „Хто не быў у маладосці сацыял-дэмакратам, не меў душы, хто ім застаўся ў сталасці — не мае розуму”. Дастаткова сказаць, што гэтая партыя дала еўрапейскай палітыцы папярэдняга канцлера Шродэра, лепшага і вернага сябра Масквы, пры якім узрасла імперская палітыка Расеі. А цяперашнія сацдэкі толькі гуляюць у апазіцыйнасць да ўладнай партыі, насамрэч набіваючы сабе цану ў кааліцыі. Ну, а на трэцяе месца ўзабралася нібыта права-радыкальная партыя „Альтэрнатыва для Германіі”. Ізноў жа нібыта, бо дастаткова паглядзець на лідараў гэтай плыні, каб зразумець, што ніякія яны не „правыя”. Гэтая партыя па-майстэрску выкарыстала антыіміграцкія настроі нямецкага грамадства, але менавіта выкарыстала. АдГ яшчэ называюць прарасейскай партыяй. Але як па мне — дык там усе такія. І так далей па спісе партый, якія прайшлі ў Бундэстаг — „Лібералы”, „Левыя” (гэтыя ўвогуле класічныя махровыя камуністы), „Зялёныя”. Уявіў я сябе нямецкім выбарцам і сам сабе ўмоўна заплакаў. Як той казаў, у Бога дарог многа, а чалавеку выйсця няма. Напэўна з пару дзясяткаў іншых партый было за каго прагаласаваць, але гэтыя партыі застануцца на маргінэсе, не маючы рэальнага ўплыву ні на ўнутраную, ні на знешнюю палітыку дзяржавы.

У дадатак яшчэ адзін яскравы прыклад інфармацыйных масавых ашуканстваў. Фраў Меркель у сваіх выступах часта апелявала да статыстыкі і нібыта стабілізацыі, казала пра зніжэнне беспрацоўя. Так у 2010 годзе ў Германіі было 6,5 мільёна беспрацоўных (цэлая еўрапейская сярэднестатыстычная краіна), а неўзабаве, за нейкі год стала ўсяго 3,5 мільёна (адразу прыгадваецца, як у Беларусі гэтак жа рэзка нібыта вырасла сярэдняя працягласць жыцця). А ў чым палітычны фокус? Усё геніяльна проста: тры мільёны фактычна беспрацоўных Германіі вынаходлівыя праўладныя статыстыкі перавялі ў іншыя разрады — умоўна занятыя, мала занятыя, з мінімальным заробкам і іншыя. Пайдзі — разбярыся і правер гэтыя тры мільёны! А прывабная карцінка для выбарца ўжо створана. „Алес нармалес! Выбіраем стабільнасць”. Яны і выбралі. Так што фраў Меркель, якая кіруе Нямеччынай ужо з 2005 года, можа быць на вяршыні яшчэ дастаткова доўга. Глядзіш і рэкорд жалезнага князя Бісмарка пераўзыдзе.

А што нам? А нам сапраўды ўсё роўна, хто там пераможа. Як некалі трапна і сцісла выславіўся Зянон Пазьняк: „Што б не здаралася ў гісторыі, немцы і расейцы заўсёды супраць нашага Вялікага Княства”. А найгорш, калі яны разам супраць нас.

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Грыбамышленне

Высыпаліся грыбы. У бянтэжачым лішку. Як быццам Прырода ўзлавалася на чалавека і хацела кінуць яму грэбліва ў твар на іспанскай мове «Tienes un perro, mierda!». На самой справе, я не ведаю, чаму прырода мела б гаварыць па-іспанску, а не, напрыклад, па-беларуску. Хоць, чаму б і не?! Гэта моцна гучыць у вольным перакладзе: «На табе, сабака, жары!» Дакладна: «нажарыся і, нарэшце, адчапіся ад мяне!» Толькі што гэта не так. Не можа быць так, што можна з'есці грыб і пакінуць яго ў спакоі. Немагчыма скубнуць яго крышку. Гэта заўсёды так або не так. Або грыбы, або калядныя «вушкі» з грыбамі. Гэта фундаментальны прынцып Прыроды. Чалавек з'яўляецца неад'емнай яе эманацыяй — бярэ ад яе столькі, колькі яна яму дасць. Нават калі б ён у сваёй прагнасці зжэр бы ўсё гэта, але нічога больш. Ані крышкі. Аднак, нават калі зжарэ сам сябе, пэўная ідэя застанецца часткай прыроды. Як архівізаваныя ў прапамяці цмокі ды іншыя дыназаўры. Што б ні рабіў чалавек, не зробіць гэта па-за планам Прыроды, якой з'яўляецца адным з элементаў. Гэта зусім не азначае, што пры яго адсутнасці яна сама прападзе. Зменіцца толькі яе жыццёвы імпульс і інакш выпрацуе эвалюцыйную мадэль — усё ж трывала адзначаную чалавечым існаваннем. Абвінавачваць чалавецтва ў тым, што парушае яе біяраўнавагу гэта як папракаць бярозавую чагу ў адсутнасці маралі з-за таго, што неміласэрна паразітуе на бярозе. Эх... У маіх вандроўках па пушчы я сустрэў не адну белакорую, заняпалую з-за прагнасці чагі. Я нават адважуся сказаць, што чага яшчэ больш крутая, чым караед.

Гэта, вядома, толькі «чалавечае» падбухторванне, што лес з-за караедаў, чагі і іншай свалаты акрыўся вялікай ганьбай. Бо акрыўся. Ці, хутчэй, «адкрыўся». Разваленыя на зямлі бярозы нагадваюць шлюх у бардэлі. Распушчаны стрыптыз елак і хвоек, якія ў калектыўным акце юрлівасці паскідвалі са сваіх ствалоў кару і бессаромна танцуюць на ветры, парушаючы ўсе правілы цывілізаванай прыстойнасці. Таму не здзіўляе мяне гіперактыўная дзейнасць абаронцаў цноты. Гэтых усіх Вялікіх Інквізітараў, якія сякерай і пілой выразаюць распусту прыроды да карання. Толькі што азначае для яе цнота? Асабліва ў сэнсе цноты старых інквізітараў-мудакоў? І няхай бы міністраў... Ці дрэвы не спраўляюцца, нягледзячы на іх, абсыпаючы адно адно пылком? Заўсёды вясною. Чаму б не выразаць нажніцамі вясну з календара? Лета таксама амаральнае. Адзін стары ляснік з выразам агіды на твары расказаў мне, як у ліпені дзве мясныя мухі нахабна прыселі ў яго на плячы, і пасля бурнага заляцання ўзяліся за секс. «Глядзець гадка! — пракаментаваў стары. — Цьфу!». Адчуў ён сябе як звычайны сутэнёр. А ж не на такое дамаўляўся з Прыродай! Паводле яго слоў, вясны і лета магло б не быць. Толькі восень Прыроды і зіма чалавека. І так адно за адным: восень — зіма — восень ... Ах, зайздроснае жыццё старычка.

Прырода і чалавек гэта адно. Само па сабе ні добрае, ні дрэннае. Як і рыжык ды баравік. Таксама мураш, птушка ці алень. Я прызнаюся, аднак, што адчуваў бы сябе даволі дзіўна, прыраўноўваючы сябе да баравіка. Хоць, чаму б і не? Яго, прынамсі, завуць белым грыбом. Шляхетным. А чалавек? У Прыродзе ён найбольшы круцель. Сапраўды, з кожнай істотай у прыроды ён спрабуе наладзіць нейкі саюз, дагавор або прынамсі гандлёвае пагадненне. Скажам — з бульбай будзе біцца з каларадскім жуком, і пасадзіць яе тысячы гектараў. З Зямлёй — за кожную дзірку, з якой вырваў яе дабро, і запоўніць яе цывілізацыйным смеццем. З лесам, што калі выража з яго ўсё, дык хутка залатае монакультурнымі радкамі ельніку — смакатой караеда. І з караедам — таксама! Спадар Шышка мог бы караеда назваць апекуном лесу. А што на гэта скажа Прырода? Ну, прабачце, мае яна ў задніцы ўсе гэтыя груба пашытыя пагадненні. Яны аднабакова чалавечыя, таму яна іх з ім не ладзіць. Згаджаючыся на іх, паставіла б сябе перад гібеллю. Гэта так жа, як і ў выпадку гіпатэтычнага дагавора аб дружбе і ўзаемнай дапамозе заключанага паміж двума паўшар'ямі галаўнога мозгу. З пункту гледжання кожнага паўшар'я гэта мела б мець сэнс толькі тады, калі было б карысным для кожнага з іх. Таму што ў левым паўшар'і — чалавечыя эмоцыі, інтэлект у правым, і абодва павінны кіраваць чалавечымі паводзінамі. Раз дамінуюць пачуцці, раз інтэлект... Так я сабе думаю пры збіранні грыбоў. Праеліся мне ўжо яны, але ж нікому іншаму іх не магу пакінуць! Бо і чаму?

**Міраслаў ГРЫКА**



Сваімі вачыма

# Грыбны сезон (ч.2)

Тыдзень таму ў гэтым месцы ўзніклі вобразы майго дзяцінства, звязаныя з грыбным сезонам, пік якога зараз назіраем. Хопіць толькі рушыцца з любога горада ў напрамку большага лапіка лесу і ўсюды, дзе не кінеш вокам, паабапал дарог стаяць машыны і толькі машыны. Калі ў папярэдніх гадах не было столькі грыбоў, бывала так, што аматараў збірання з'яўлялася больш, чымсці грыбоў у лесе. «Панаехала іх як мошкі і толькі равуць голасна бы раненыя алені», — нерваваліся на гарадскіх прыезджых пушчанскія грыбнікі. Тут чарговая, вельмі важная справа палявання на каралеўскія баравікі. Найлепш іх збіраць у цішыні і спакоі, а не ў гаманлівай і крыклівай кампаніі. Калі бацька ішоў з намі, дзецьмі, па грыбы, то проста казаў нам быць у полі ягонага зроку, каб не заблудзіцца. А адгукаўся ў вельмі рэдкіх выпадках, калі, напрыклад, ужо дарослымі хадзілі мы па лесе і не зышліся разам дзесьці на працягу гадзіны. Крык у лесе вельмі шкодны звярыне, птушкам і ўсім жывёлам. Нам, дзецям, бацька вось такім чынам тлумачыў патрэбу захавання лясной цішыні. «Калі вы будзеце крычаць, то мамы малых звяроў ці птушак уцякуць ад іх, а потым могуць не адшукаць сваіх дзетак. І будуць яны сіротамі, або з'ядуць ці разарвуць іх на кускі вялікія звяры. Хочаце гэтага? А каб вас я зараз пакінуў, то вы таксама маглі б тут і загінуць». Пасля такіх вобразных і пераканаўчых бацькоўскіх слоў нашы вочы напаўняліся слязамі і мы пільнавалі адзін аднаго, каб ніхто з нас занадта голасна не малоў языком. Найчасцей мы перажывалі за малых зайчыкаў, якія бачыліся і ўяўляліся першымі ахвярамі харчовага ланцуга дзікай прыроды.

Тыдзень назад узгадаў я таксама пра неабходнасць мець з сабою пры грыбным паляванні салідны сцізорык або востры ножык. А ўсё дзеля аднае мэты — пашаны для знойдзенага і зрэзанага грыба. Дзякуючы бацькоўскай навуцы, па сённяшні дзень зрэзваю грыбы проста пры зямлі, не вырываючы іх з коранем. Ідзе пра тое, каб не нішчыць грыбніцу, з якой будуць вырастаць чарговыя грыбныя пакаленні. А зрэзаны корань часта прыкрывалі мы назад тым мохам, ці лісткамі, скрозь якія ён прабіўся, вырастаючы з зямлі. Катэгарычна бацька забараняў зрэзваць саміх маленькіх, як іголкі грыбоў. «Хай падрастуць, — паўтараў заўсёды. — Як не мне, то трапяць каму другому». Прыхільнікі вырэзвання ўсяго дашчэнту ў тым ліку і грыбной драбязы, гаварылі, што калі грыб пабачаць чалавечыя вочы, то ён тут жа засыхае і не расце. Але гэта няпраўда, сцвярджаю з поўнай сур'ёзнасцю. Баліць проста сэрца і душа, калі бачыш, як людзі грабуць зямлю і знішчаюць міцэлій, ліквідуючы месца натуральнага іхняга асяроддзя. Чалавечая ненасытнасць і блізарукасць — бязмежныя ў кожнай сферы. Нават, здаецца, у такой адпачынковай, як грыбная справа. Шукаючы грыбоў у негрыбны час, нас, дзяцей, часта брала тады хуткая злосць. І сваю празмерную жэўжыкавую жоўць вылівалі мы, збіваючы «воўчыя грыбы» ці мухаморы. Як тое пабачыў наш тата, зрабіў нам такія выгавары пра нашу дурноту і даў такія жыццёвыя парады, што па сённяшні дзень такога грыба не толькі не збіваю, але ўважліва абмінаю, каб выпадкова не раздушыць.

Добрая пушчанская школа назаўжды застаецца ў памяці. Карыстанне натуральнымі багаццямі прыроды патрабавала і надалей патрабуе з нашага боку разумення і пашаны. Інакш будзем толькі варварамі, што могуць нанесці прыроднаму свету боль і знішчэнне. Таксама і ў выпадку грыбоў. А па грыбы можна было хадзіць са світанку да ночы, забываючы пра час і сялянскія абавязкі. Наша мама то нават злавала, калі тата выпускаўся самой раніцай па грыбы і не вяртаўся, пакуль не быў поўны кошык. А запоўніць кошык у бязгрыбную пару не такая простая справа. Тут над рацыянальнасцю бралі верх паляўнічы азарт і пушчанскія гены. Таму, калі бацька набыў сабе ручны гадзіннік, то мама перад выхадам па грыбы ставіла сакраментальнае пытанне: «А часы на руку ўзяў? Доўга не хадзі. Вярніся перад дзявятай. А то столькі работы ў полі». Ну што ж, усіх грыбоў не перазбіраеш і ўсёй працы ў полі не перарабіш. Але адна і другая справа вучыла нас чалавецтву.

**Яўген ВАПА**



# Святлапіс Лявона Тарасэвіча

У Супрасль вярнуўся яшчэ раз Лявон Тарасэвіч. Мастак адгэтуль, чалавек пагранічча, вядомы ва ўсім свеце. 4 жніўня пачалася была выстава ягоных новых прац «Святлом напісана». У Супраслі, «куды прынёсся дух Гарадка», як прыгадаў мастак. У Супрасльскай акадэміі выстаўцы светлавых ікон Тарасэвіча спадарожнічаў вераікон (выява Хрыста на хусце) ягонага майстра Ежы Навасельскага.

— Жывапіс выйшаў ад іконы, — прызнаецца Лявон Тарасэвіч. — Я ўзгадаваны на гарадоцкай царкве, на жывапісе Дабжанскага, Навасельскага. Я багата часу прысвяціў вывучэнню праваслаўнай культуры і атаясамліваю сябе выключна з ёю. Адной з галоўных крыніц сваёй творчасці ўвесь час называю фрэскі 16-га стагоддзя мастака Нектарыя з царквы ў Супраслі... Ежы Навасельскага я сустрэў на Грабарцы, калі мы арганізавалі лагер пісання ікон. Я быў там з Брацтва праваслаўнай моладзі. Быў там таксама між іншым айцец Лявонцій Тафілюк. Бачыў я таксама, як Навасельскі піша іконы, папраўляе малюнкі на званіцы, якія знішчыў час. Задаваў я таксама вечарамі, як «малады гнеўны», шмат пытанняў яму. І аднойчы мы пайшлі ўдвух на поўдзень ад Грабаркі, і Навасельскі выліў на маю галаву вядро халоднай вады, расказваючы аб сітуацыі Праваслаўнай царквы ў Польшчы. Пасля, калі я раз на паўгода бываў у Кракаве, Навасельскі вёў са мною размовы. Я пасля мог вяртацца і працаваць. Тая доза ведаў, маралі давала мне многа для быцця і перамагання супярэчнасцей. Дзякуючы такім людзям, якіх лёс нам прыносіць, можна было жыць і адбівацца ад розных вятроў і космасаў.

19 верасня адбыўся ў Супрасльскай акадэміі фінісаж выставы. Мерапрыемства спалучылі з прамоцыяй публікацыі пра мастака. Альбом выйшаў на трох мовах: польскай, англійскай і беларускай. Аўтарамі тэкстаў змешчаных у публікацыі з'яўляюцца Крыстына Чэрні, праф. Антон Міранович і праф. Аляксандр Наумаў ды айцец **Генрык Папроцкі**.

— Лявон Тарасэвіч — мастак, які глыбока звязаны з праваслаўнай традыцыяй. І гэты факт не павінен у нікога выклікаць сумненняў. Ён чымсьці падобны на Ежы Навасельскага, толькі ягоны падыход (і гэта вельмі важна для праваслаўнай традыцыі) не з'яўляецца статычна-дынамічным, паколькі развівае пэўныя тэмы. У Супрасльскай акадэміі гэта не апошні ягоны голас, не апошняе слова. Я ўпэўнены, што ён яшчэ неаднойчы здзівіць нас. Лявон Тарасэвіч — мастак — чалавек памежжа. Гэта асабліва сітуацыя, дастаткова ўспомніць, колькі выдатных мастакоў спарадзілі «польскія крэсы». Такія перадумовы, безумоўна, могуць спрыяць фармаванню сінтэзаў. У выпадку людзей «з Усходу» гэта сінтэз культуры хрысціянскага Усходу і Захаду. Высновы гэтага тыпу заўсёды незвычайныя і даюць здзіўляючыя вынікі. На культурным стыку ўзнікаюць усебаковыя людзі. Лявон Тарасэвіч не толькі жывапісец, стваральнік прасторавых установак, але і культурны аніматар. Пералічым «Галерэю Крынкі», якая была створана ў 2011 годзе і выдаваны з 1999 года ў Крынках альманах *Annus Albaruthenicus*. Але перш за ўсё, з'яўляецца ён мастаком у пошуках, з аднаго боку, урослы ён у традыцыі гэтага месца, з другога эксперыментуючы з рознымі формамі жывапісу. Спазнанне традыцыі, звязанай з мастацтвам іконы ці вітражу (працы Адама Сталёны-Дабжанскага ў царкве ў Гарадку) стала адпраўной кропкай для стварэння ўласнага бачання эмпірычнай рэальнасці, насычанай у яго карцінах колерамі Падляшша. Сам Тарасэвіч напісаў, што «святло было і ёсць невытлумачальнай таямніцай, яно дае нам падставу для разважанняў, медытацыі, а таксама пытанняў пра таямніцу жыцця і рэлігіі. Такім чынам, святло закрытае ў карціне выконвае такую ж ролю ў нашай свядомасці, якую калісь мела напісаная ікона. Таму такім важным з'яўляецца стварэнне рэлігійных карцін, якія нясуць у сабе духоўнасць, агульную для ўсіх, таму што такая была ідэя першапачаткаў іх узнікнення. Здаецца, што творы Тарасэвіча з'яўляюцца быць працягам думкі Ежы Навасельскага (1926-2011), паводле якога абстрактная карціна ўяўляе сабой сучаснае выяўленне анёлаў: «Ангелос з'яўляецца пасланнікам са свету тонкіх істот, якія стварылі для нас быццам бы свет-пратэз, такі, які мог бы ўвайсці ў абсяг чалавечага ўспрымання. Сёння сітуацыя іншая. Сёння ўжо не мусяць тыя анёльскія істоты ствараць такіх пратэз, яны могуць мець зносіны з намі непасрэдна... Такім чынам нараджаецца свядомы абстрактных жывапіс. Таму што гэтыя [абстрактныя карціны] з'яўляюцца іконамі. Толькі што гэта іконы, якія датычаць рэальнасці тонкіх істот. Свайго роду абстрактнае мастацтва можа быць іконай. Я паўтару яшчэ раз сцісла, што я Вам ужо сказаў. Я сказаў, што гэта на самой справе сучаснае выяўленне анёлаў. Абстрактнае мастацтва з'яўляецца вялікім крокам наперад у гэтым напрамку. Абстрактнае мастацтва з'яўляецца сведчаннем таго, што мы пачынаем напрацоўваць у нас прэцэптары, якія дазваляюць нам больш прамы кантакт з асобамі з тонкага свету» [З. Падгужэц, *Размовы з Ежы Навасельскім]*.

Тарасэвіч ідзе на крок далей і для яго святло становіцца чымсьці важным само па сабе. Гэта вынікае з біблейскага аповеду: «А зямля была бязладдзем і пустэчай, і цемра была над бязмежнасцю водаў. [...] Тады Бог сказаў: «Няхай будзе святло!» І было святло. І ўбачыў Бог, што святло добрае, і аддзяліў яго ад цемры» (Быц. 1, 2-4).

Прафесар Лявон Тарасэвіч закончыў Мастацкі ліцэй у Супраслі, а ў 1984 годзе аддзяленне жывапісу ў Акадэміі мастацтваў у Варшаве. Заўсёды падкрэслівае сваё беларускае паходжанне. Здаўна прымае актыўны ўдзел у жыцці беларускай меншасці ў Польшчы. Маляваў ад заўжды. Тут, у Супраслі, ён як у сябе.

Піша ў каталогу аб творчасці Лявона Тарасэвіча **Крыстына Чэрні**: «Сапраўдны, чыстакроўны мастак малюе ў асноўным бесперапынна. Усюды, дзе ёсць — арганізуе сваё асяроддзе візуальна, з'яўляецца рэжысёрам колеру прасторы, ставіць асноўныя пытанні жывапісу: колеру, святла і формы. Таксама для Лявона Тарасэвіча — лаўрэата самых важных польскіх узнагарод у жывапісе: Узнагароды імя Яна Цыбіса (1998) і Узнагароды Фонду Навасельскіх (2000) — увесь свет з'яўляецца жывапісам, невыпадкова крытыка аднойчы назвала яго «жывапіснай бестыяй з плоці і крыві». У дзяцінстве ён маляваў палкай, упэцканай у гразі на апорах моста, кіёчкам на сцежцы. Адлегласць ад родных Валіл да Варшавы ўспрымаў як «палатно ў дваццаць чатыры кіламетры, адчужаную царкву без сцен». «Я малюю ўсюды, дзе гэта магчыма! — пацвярджае сёння. — Я думаю, што гэта натуральна. Я не адчуваю сябе абмежаваным падрамнікам. Калі ёсць магчымасць выкарыстоўваць іншае, чым традыцыйнае палатно, дык чаму б і не? Кожная новая прастора з'яўляецца выклікам і перасячэннем меж, аб якіх ніколі б я не падумаў, для мяне кожны сказ пабудаваны на мове жывапісу гэта жывапіс. Неабавязкова на палатне, матэрыялам можа быць зямля. Нават пальцам на сцяне на чыгуначным вакзале ў Калюшках». Жывапіс Тарасэвіча — «чысты жывапіс» — узнікае з самых элементарных сродкаў жывапіснага выказвання. Мастак пачынае ад «рэчаў першых». Чырвань і зелень, блакіт і аранжавы, фіялет і жаўцізна. Вертыкаль, гарызанталь, кругі, квадраты... Ілюзорна мы далёкія ад традыцыйнага разумення жывапісу. Але гэта якраз жывапіс ляжыць у ядры жанру. І не адрозніваецца ад старога вызначэння мастацтва як дзеяння ў адпаведнасці з правіламі. Тарасэвіч дасягае да вечных правіл гармоніі, парадку і меры, атрыманых з бачнага свету, але якія адлюстроўваюць ідэю»... Мастак з Валіл малюе ўсім і па ўсім. Калісь «маляваў» граззю, сёння мяшае каляровыя пігменты з тынкоўкай, з цэментам, нават бетонам і жвірам, малюе па стружкавых панэлях, з якіх выкладвае падлогу, малюе лямпамі і люстрамі, ляйтбоксамі і святлом. Штодзень таксама малюе кветкамі і птушкамі. Як садоўнік і кветкавод, старшыня Клуба заводчыкаў дэкаратыўных курэй «Gallus», ён застаецца найперш мастаком. Акрамя выстаў жывапісу арганізуе таксама кірмашы і выставы дэкаратыўных курэй. «Для псіхічнага здароўя трэба час ад часу прыбраць у куратніку», — кажа ён разважліва, і дадае: «Тыя, хто смяецца з гэтага і ігнаруе гэта, няхай усвядоміць, што развядзенне дэкаратыўных курэй доўжыцца на два разы даўжэй, чым хрысціянская цывілізацыя, у якой мы жывем». Аб курыцы Тарасэвіч умее расказаць як пра твор мастацтва. «Я разбяр у курыцы», — прызнаваўся Адаму Вайраку, і калі з запалам апісвае метады скрыжавання ідаў у пошуках больш дасканалай формы або колеру — вы чуеце ў яго голасе запал мастака змешваючага фарбы на палітры. «З калегам мы разводзім адзін від голуба, і калі бачу здалёк птушку з гэтага разводу, ведаю, якога голуба яна з'яўляецца нашчадкам. Гэта такая ж сітуацыя, як з жывапісам — адзін здалёку пазнае мастака і ведае, ці гэта добрая ці дрэнная карціна, а іншы гэтага не бачыць». «Лявон Тарасэвіч гэта хтосьці вельмі сціплы, пакорлівы, — ужо ў 1999 годзе пісала Дарота Ярэцкая. — Хтосьці, хто толькі ставіць свае палотны так, каб на іх трапіў прамень святла, прабягаючы праз свет». Туга па нематэрыяльным мастацтве, якое існуе толькі ва ўяўленні, даходзіла да голасу ў папярэдніх праектах мастака, скажам, праз эфект люстэрка, які выкарыстоўваўся ў жывапісных лабірынтах і каланадах. Шматлікія адлюстраванні пафарбаваных калон стваралі ілюзію прасторы, дасягаючай у бясконцасць. Глядач стаяў падвешаны паміж канкрэтнасцю і ілюзіяй, рэчаіснасцю рэальнай і віртуальнай, перад прывабным *сімулякрам* духоўнай прасторы. «Карціны, паўтораныя ў адлюстраваннях, займаюць прастору невымерна большую, шырокую і недасяжную, — пісаў крытык. — Тая прастора становіцца ментальнай структурай. Можам спазнаваць яе візуальна, і толькі візуальна. (...) Размываецца мяжа жывапіснага рэчыва. Рэальнасць, у якую мы можам увайсці, становіцца адначасова ілюзіяй. Мы пачынаем у той момант удзельнічаць у свеце матэрыі і па-за яе межамі... і гэта незвычайнае».

— Каталог Лявона Тарасэвіча з'яўляецца дакументацыяй выставы «Пісанае святлом», — сказала куратар выставы Магдалена Гадлеўская-Сіверская, — але далёка перакрочвае ён меры звычайнага каталогу, якія выдаюцца да выстаў. Пашыраны ён таксама, апрача тэкстаў пра мастацтва, на артыкул праф. Антона Міранoвіча пра гісторыю Супрасля і яго духу. Выдадзены ён Фондам Ойкономос, часткова дафінансаваны Маршалкоўскай управай.

Я сама мела прыемнасць і выклік перакладаць на беларускую мову эсэ праф. Аляксандра Наумава, а. Генрыка Папроцкага і Крыстыны Чэрні, далучыўшыся да гэтай цудоўнай справы — выдання такога адмысловага і важнага артэфакту. Шкода, што «кансультантка» занядбала дагледжанне ўсіх тэкстаў. А альбом хацеў атрымаць кожны, хто наведаў фінісаж. Гасцей было на фінісажы больш за восемсот асоб. Вялікай групай былі таксама сябры мастака — беларусы Гарадоччыны, калегі Лёніка са студэнцкіх часоў — вандроўцы з рэйдаў па роднай Беласточчыне. Святло таго часу грэе нашы душы. Супрасль быў таксама месцам, куды вяртаемся — Лёнік таксама. Часцей бывай, Лявон, у нас!



Тэкст і фота **Міры ЛУКШЫ**

## Небяспечна

Павятовыя дарогі ў Нараўчанскай гміне Гайнаўскага павета патанаюць у зарасніках. Паабапал дарог, між іншым, у Плянце ад чыгуначнага пераезда да колішняга вакзала (паўкіламетровы адрэзак), з Новага Ляўкова ў Лешукі (гэта 4-кіламетровы адрэзак) ды са Старога Ляўкова ў Лешукі (3 км). Тут на абочынах дарог выраслі кусты вербалозу, алешніку ды ляшчыны. Пасля дажджу іх намоклыя галінкі з густым леташнім лісцем яшчэ больш нахіляюцца над маставой, бачнасць на дарозе звужаецца. Нават на ровары прыходзіцца ехаць сярэдзінай дарогі, а так нельга.

Абступленымі зараснікамі дарогамі небяспечна ехаць. Таму неабходна ссячы зараснікі ў прыдарожных равах. Гэтым павінна заняцца Праўленне павятовых дарог (ППД) у Гайнаўцы. Варта дадаць, што з аднаго боку ляшуцкай дарогі на яе невялікім адрэзку ссеклі кусты сямейнікі жанчыны, якая тут загінула.

Кіраўніцтва ППД у Гайнаўцы павінна адрамантаваць невялікі адрэзак асфальтавай дарогі ў Плянце, якая бяжыць паралельна з чыгункай ад пераезда ў напрамку колішняга чыгуначнага вакзала. Якраз тут, дзе з левага боку быў вакзал, маставая найбольш зруйнаваная (тут ушчэнт раструшчаны асфальт), на ёй у глыбокіх ухабінах пасля ападкаў доўга стаіць вада, а цяпер, восенню, то і не высыхае. Вадзіцелі аўтамашын, асабліва пільна сачыце на гэтай дарозе, бо трапіце ў біду. Папераджальных дарожных знакаў пра небяспеку тут няма. Каціся сабе як хочаш.

## Як жывем

Жыхарам Новага Ляўкова Нараўчанскай гміны Гайнаўскага павета жывецца нялёгка. У ёй — як палічылі ў ЗАГСе — 209 чалавек. Не будавалі тут святліцы, бо навошта, калі ёсць такі вясковы дом культуры ў Старым Ляўкове. Ад сярэдзіны вёскі Новае Ляўкова да святліцы і ў бібліятэку, што там, усяго 2,5 км. 15 кастрычніка гэтага года ГС у Нараўцы замыкае і ліквідуе прадуктовую краму ў Новым Ляўкове. У гэтым віна, між іншым, прадаўшчыцы. Неўзабаве ў бліжэйшую краму прыйдзецца хадзіць або ездзіць 2 кіламетры, а ў крамы з багацейшым асартыментам харчовых прадуктаў у Нараўцы — 6-7 км.

Пажылым жыхарам (іх тут найбольш) будзе яшчэ цяжэй жыць. Так мне сказаў адзін з пажылых новаляўкоўцаў Андрэй Пучынскі (ён ужо не дае рады ездзіць на ровары, раней хадзіў з ім, трымаючыся за руль).

Варта дадаць, што цераз Новае Ляўкова не ездзяць пасажырскія аўтобусы ПКС, ані іншых транспартных фірм у Беласток, Міхалова і ў Гайнаўку, а гэта адсюль бліжэйшыя гарады. І яшчэ адно. Ездзім — калі хто мае чым — па ўхабістым адрэзку ваяводскай дарогі № 687. Вёска Новае Ляўкова — як кажуць — адрэзаная ад свету.

## Віталь Скепка

18 верасня гэтага года веяў віхурысты вецер. Паваліў ён некалькі дрэў (бярозі сосен) у лесе каля Новага Ляўкова Нараўчанскай гміны. Адна вялікая сухая сасна ўпала на дарогу, якая вядзе з калёніі Новага Ляўкова да колішняга пасажырскага чыгуначнага вакзала ПКП і ў вёску Плянта, і перасякла яе ў лесе. Ляжала яна дзень і ноч да поўдня наступнага дня. Аўтамашынай, трактарам або фурманкай абмінуць перашкоду мог толькі той, хто ведае іншыя дарогі ў гэтым лесе. Былі б гэта два аб'езды: адзін кіламетровы ляснымі вузенькімі дарожкамі і доўгі найперш гравійкай і затым асфальтам — 2-кіламетровы. І яшчэ адно. На гэтай лясной дарозе пасярод густых дрэў нялёгка было б павярнуць назад.

Ехаў я на ровары 19 верасня і ўбачыў паваленую сасну-выварат на ўсю шырыню дарогі і нават яшчэ больш. Сцягнуць або адкаціць яе ўбок мне не ўдалося, яна трымалася яшчэ пня а той быў глыбока ў зямлі. Перашкода стварала небяспеку ў дарожным руху. Не кожны мог такое прадбачыць і паволі ехаць.

Патэлефанаваў я новаляўкоўцу Віталю Скепку, які адсюль непадалёк жыве. Быў ён дома. Расказаў я пра выварат на дарозе і папрасіў яго, каб узяў пілу з сабою. Спадар Віталь, гэта хачу дадаць, пастаянны ніўскі чытач, хутка прыехаў на ўказанае месца, перасек вывернутае дрэва ў адным і ў другім месцы ды сцягнуў сасновыя камлі з дарогі на бакі. І ўжо можна было бяспечна ехаць далей. Шчыра табе дзякую, Віталь.

**Янка ЦЕЛУШЭЦКІ**
**солтыс Новага Ляўкова**

# Інаўгурацыя Еўрапейскіх дзён у Орлі

У суботу, 9 верасня, у Орлі пачаўся цыкл мерапрыемстваў «Ваяводская інаўгурацыя Еўрапейскіх дзён спадчыны». На мерапрыемства на плакатах і буклетах запрашалі маршалак Падляшскага ваяводства, войт Арлянскай гміны ды Гмінны асяродак культуры ў Орлі. У прадбачанай на восем гадзін праграме было некалькі прэзентацый ды канцэрт.



Паспрыяла надвор'е, на жаль, а гэта шырэйшая тэма — зацікаўленасць мерапрыемствам аказалася цалкам нязначнай, публіку можна было лічыць «на пальцах».

А палове другой гадзіны пасля поўдня гмінная сакратар Ірэна Адзіевіч сказала:

— Спадар маршалак, спадар войт, шаноўныя госці, дарагія сабраныя! Еўрапейскія дні спадчыны сталі ўжо традыцыяй. Яны ладзяцца ў Польшчы ад 25 гадоў і трывала запісаліся ў каляндар культурных мерапрыемстваў. Упершыню ваяводская інаўгурацыя Еўрапейскіх дзён спадчыны адбываецца ў Арлянскай гміне, а гэта незвычайная і вельмі важная падзея ў культурным жыцці нашай малой гміны.

Затым прамоўца прывітала гасцей, у іх ліку віцэ-маршалка Падляшскага ваяводства Мацея Жыўну, бельскага бургамістра Яраслава Бароўскага і іншых. І дадала, што сёлетні выпуск праходзіць пад лозунгам «Краявід спадчыны, спадчына краявіду», а яго мэта — звярнуць



увагу на харастао і маляўнічасць краявідаў, якія з'яўляюцца запісам гісторыі чарговых пакаленняў жыхароў нашых гарадоў, мястэчак, вёсак.

Войт Арлянскай гміны Пётр Сэльвесюк:

— Спадар маршалак, шаноўнае спадарства! Ад імя свайго і спадарыні дырэктар ГАК вітаю вас. Мне нязмерна міла, што ваяводская інаўгурацыя адбываецца менавіта ў Орлі. Орля сёлета адзначае юбілей 510-годдзя ўзнікнення мясцовасці. Юбілейныя ўрачыстасці пачалі мы на мінулым тыдні фэстам беларускай культуры, а сёння прадаўжэнне. Мы знаходзімся ў асаблівым месцы. Інаўгурацыя адбываецца ў цяні сінагогі, недалёка маем царкву, узяжджаючы ў Орлю таксама каталіцкую капліцу. Гэта паказвае, якую багатую гісторыю мае наша гміна, наша мясцовасць.

Віцэ-маршалак Падляшскага ваяводства Мацей Жыўна:

— Спадар войт, шаноўнае спадарства! Думаю, што інаўгурацыя Еўрапейскіх дзён спадчыны ў Орлі паказвае, што ўсе ў нашым рэгіёне, у кожным закутку, лічым, што з'яўляемся часткай вялікай еўрапейскай сям'і. Сустракаем тоеснасць Еўропы ў кожным месцы шматкультурнасці, шматнацыянальнасці і шматзначнасці нашага рэгіёна. Вельмі цешуся, што сёлета пачынаем гэтае свята з Арлянскай гміны, гміны, якая ўмее аказаць пашану шматкультурнасці. І гэта тое лепішча, што нас на штодзень будуе, фармуе, важнае, якое трэба берагчы. Думаю таксама, калега войт, што ў нас больш шчасця, чым у дзяцей і моладзі, якім некалькі дзён таму на інаўгурацыі школьнага года перашкаджаў дождж — мы маем прыгожае сонечнае надвор'е. А гэта знак таго, што нават надвор'е ўсміхаецца да нас, што Еўрапейскія дні спадчыны маюць шанс выглядаць так прыцягальна ў цэлым рэгіёне. Сёння малую размінку пачынаем у Орлі, але ў многіх месцах нашага рэгіёна будзем гэтыя Дні паказваць, будзем цешыцца прысутнасцю ў вялікай еўрапейскай сям'і. Гэта важнае ў часе, калі ёсць многа фактараў і асоб, якія ставяць пад пытанне нашу еўрапейскасць. Мы паказваем, што мы ў Еўропе і наша культура, наш рэгіён з'яўляюцца часткай еўрапейскай тоеснасці. Але гэта таксама нагода спаткацца, зінтэграваца, добра пагуляць і таксама пабачыць маладых і спрактыкаваных мастакоў са сваім умельствам штодзень. Жадаю вельмі ўдалых Еўрапейскіх дзён, а ўсім вам добрага і прыемнага прабывання ў Орлі. Варта сюды прыязджаць, заўсёды!

Публіка, якой у тую пару сабралася найбольш — некалькі дзясяткаў асоб, накіравалася ў бок недалёкай сінагогі на тэатральнае прадстаўленне «Суседзі, якіх няма» — апавяданні жыхароў Белавежы пра іх яўрэйскіх суседзяў; спектакль зрэалізаваны ў рамках Адукацыйнага фонду Яцка Кураня з групай дзяцей і моладзі з Белавежы «Вясковая дзетвара» ў рэжысуры Іаанны Троц.

Перад уваходам у сінагогу жанчына, якая сабрала нейкія ўспаміны пра белавежскіх яўрэяў, сказала, м. інш.: «Орля была грамадскасцю, дзе яўрэі складалі 80%, у Белавежы толькі 10-15%. Аднак адчуваю, што ім таксама належыцца памяць, як і арлянскім, таму ад некалькіх гадоў дакументую гісторыю яўрэяў Белавежы. І тыя расказы найстарэйшых жыхароў зараз расказваюць белавежскія дзеці (з васьмі гадоў і з гімназіі). Ставім той спектакль у розных месцах. Вельмі нам міла, што нас запрасілі Маршалкоўская ўправа і Арлянская гміна, каб паказаць гэта тут. Будзем гэта прэзентаваць таксама ў Варшаве, таму ў нас такое вялікае хваляванне».

І тут я сабе падумаў, што 80% насельніцтва Орлі складалі яўрэі. А цяпер, маючы некалькіх выдатных журналістаў і кінематаграфістаў, ніхто з іх не прысвяціў дастаткова ахвоты і часу, каб запісаць радыё- і тэлеўспаміны жыхароў аб яўрэях. А калі і было запісана, то надта павярхоўна. Зараз я ўпэўнены, што я адзіны выканаў найбольшую працу і сабраў успаміны ад некалькіх дзясяткаў асоб, якіх няма ўжо ў жывых. Калі дазволіць Бог, разам з ГАК неўзабаве будзе выдадзена мая чарговая кніжка.

У сінагозе публіка заняла ўсе сядзячыя месцы, частка людзей стаяла. Раздалася нейкая сумная мелодыя ў выкананні маладой скрыпачкі, з падлогі ўзняўся штучны дым і пачаўся спектакль. У маладых акцёраў не было відаць хвалявання. Амаль гадзінны спектакль гледачы ўспрымалі ў засяроджанасці. І спадабаўся! Акцёры аж тройчы бісавалі. Апладысментам, здавалася, не будзе канца.

Чарговай у праграме была прамоцыя кніжкі «Radziwiłłowskie dobra Orla (1585-1695)» Міхала Сербы ў Гміннай публічнай бібліятэцы. Зацікаўленасць задавальняючая, месцы для сядзення занятыя.

Ад 13-й гадзіны да 18-й на тэрыторыі адпачынковага парку ў цэнтры Орлі адбываліся паказы рэканструкцыйных груп з Беларусі — паказы муштры, вайсковыя сутычкі, лагер — Ваенна-гістарычнага клуба «Газдава» з Бабруйска ды Ваенна-гістарычнага клуба «Рэгімент Януша Радзівіла» з Мінска.

Быў таксама 17-вечны шляхецкі прысёлак «Пацава хата» — гістарычныя прэзентацыі, даўнія гулянкі, майстар-класы даўніх танцаў, сустрэча з 17-вечнай шляхтай.



Зацікаўленасць паказамі невялікая. Былі моманты, што рэканструктараў было ў парку больш чым гледачоў. Ну, але хто хацеў, той пабачыў, паразмаўляў; асабліва цікавіла гэта бацькоў з малымі дзецьмі. Што нейкі час раздаваўся гучны выстрал з гарматы, быццам запрашэнне, каб прыйсці і паглядзець. Паказы напаміналі нам часы арлянскай мінуўшчыны.

Можна было паглядзець яшчэ дзве пленэрныя фотавыставы: «Слядамі забытага Падляшша — наша тоеснасць у памяці будучых пакаленняў» ды «Шматкультурнасць у нашых вачах» — фатаграфічныя працы дзяцей. Зацікаўленасць была мімаходнай — першая выстава паказвалася ўжо ад некалькіх тыдняў...

Ад 18-й гадзіны на сцэне перад сінагогай пачаўся канцэрт беларускага калектыву «Палац». Цікавая музыка, падыходзячая пад соўл, але надта галасіста былі пастаўлены дынамікі, заглушаліся паасобныя інструменты. Музыку калектыву было чуваць здалёк і, мабыць, таму публікі амаль не было перад сцэнай. Гэта мяне здзіўляе, бо тыдзень раней на беларускім фэсце былі натоўпы людзей, а гэта абазначае, што народ любіць беларускую музыку. Аднак тады большасць публікі складалі пажылыя людзі.

Пасля канцэрта адбылася мультымедыйная праекцыя навонкі сінагогі, якая адносілася да ландшафтнай спадчыны Арлянскай гміны ды шматкультурнасці рэгіёна.

* * *

Еўрапейскія дні спадчыны ў Падляшскім ваяводстве штораз больш цікавяць людзей. Добра, што ў Орлі будуецца цэнтр культуры. Праз год яго адкрыццё. Жыццё паказвае, як ён вельмі патрэбны.

Тэкст і фота **Міхала МІНЦЭВІЧА**

# Гледзячы на дарогу

Дом гэта дарога, а дарога гэта дом, — кажа Марыюш Вільк у размове з Пятром Брысачам у кнізе «Гледзячы на Усход...»[1].

У маім выпадку дарогай з'яўляецца безумоўна дом, прынамсі на сённяшні дзень. Цяжка прадбачыць, што прынясе заўтра. Але ёсць людзі, якія жывуць нязменна ў дарозе. Дом-дарога і дарога-дом супольна ствараюць ідэі кругаходу. Дом-дарога не заіснуе без неспадзяванага госця, а дарога-дом — без гасціннага гаспадара.

Сімвалічным домам-дарогай магу назваць на сённяшні дзень таксама школьную бібліятэку, у якой праводжу немалы кусок каштоўнага часу. Сяджу мурам быццам у нейкай крэпасці, не пакідаю падасланых мне пад апеку дзяцей у час урокаў, не выходжу на агульныя перапынкі, паколькі тады збіраецца іх найбольш. Папросту трываю, чакаючы нейкага збаўлення.

І тут раздаецца рашучы, хуткі стук высокіх абцасаў. Хлопцы з гімназіі добра яго ведаюць. Так ходзіць толькі шаноўная дырэкцыя школы.

— А мой ход вам таксама вядомы? — пытаю іх

— Не, вас ніколі не распазнаць, не прадбачыць.

— Праўдзіце, калі ласка, бібліятэчны ўрок, — звяртаецца да мяне распазнаная здалёк шаноўная госця. — Разумею, што вы не паспелі падрыхтавацца, але бацюшка якраз святкуе, а ксяндза ў курыю выклікалі. Тады можа вы ім пра нешта раскажаце.

«Адны сюрпрызы ў гэтым жыцці», — думаю сабе. Нехта выняў кніжку па гісторыі, хацеў падрыхтавацца да чарговай праверкі. Тэма: Лістападаўскае і Студзеньскае паўстанні. Узгадала я ім паўстанчыя сляды ў нашым наваколлі і віленскія навінкі пра касцёк Кастуся Каліноўскага. Вядома, ад паўстання простая дарога ў Сібір. І вось, пакорпаўшыся добра ў сваёй сумцы, знайшла я кнігу «Patrząc na Wschód» ці белыя мядзведзі, як каму падабаецца.

Кніжку пазычыла я ў брата. На першай старонцы прысвячэнне: «Piotrowi, który sam wyznacza granice strefy dla mediów». Запахла так характэрнай для Чабаноў усёмагутнасцю. Славуты мастак Лявон Тарасэвіч скарыстаўся калісь тэрмінам «папраўлянне Бога» ў адносінах да птушыных скульптурак майго бацькі. А і я пачала папраўляць свой уласны свет, перасоўваючы як мага далей накінутыя нейкім фатумам на мяне межы. У цэлай суматосе амаль з жыццём развіталася, але мэту канчаткова дасягнула. Пётр Брысач ідзе лёгкімі шляхамі, перакідаючы турботы нічым гарачую бульбу ў рукі чарговых герояў сваёй кніжкі. Зборнік інтэрв'ю з вядомымі польскімі рэпарцёрамі, пісьменнікамі і падарожнікамі гэта, у асноўным, спроба акрэсліць паняцце Усходу і вызначыць яго пачатак. Толькі пачатку, таму што канца і краю, як вядома, там не знайсці. Усе выказванні дапаўняюцца ўзаемна згодна прынцыпам кругаходу дарогі-дому і дому-дарогі .

Мая ўсёмагутнасць сягае далёка за межы прыватнага панадворка. Яна кранае перавызначэння, а ўдакладняючы, ліквідацыі ўсходняй мяжы. У частцы і гэта здзяйсняецца. Ужо ад некалькіх гадоў харчуюся самым смачным ва ўсім свеце хлебам, які сам прыязджае да мяне з Беларусі. Засталося толькі пазмагацца з закаранелымі, зроджанымі з абмежаванняў стэрэатыпамі. Але каб вызваліцца ад іх, трэба пабачыць на свае вочы, — кажа Енджэй Маравецкі. Пад цёплым здымкам бабулькі ў хустачцы чытаю: „Trzeba zrozumieć, a nie widzieć, widzieć to jeszcze za mało” (стар. 81 там жа)

«Сапраўдны кайф», — акрэслівае перасяканне ўсходняй мяжы Гуга Бадэр. Падарожжа ўспрымае як прадвызначэнне і элемент звязваючы асобныя кускі жыцця ў адну цэласць. Абавязкова павінна быць мэтанакіраванае і насычанае кантактам з людзьмі. Не ён першы і не апошні ў сваім меркаванні, з якім поўнасцю сімпатызую. Не разумею затое некаторых выказванняў падарожніцы Магдалены Скопэк як хаця б: „Jadę, by pożyć cudzym życiem” (стар. 88 там жа). Ці ж гэта настолькі ўласнае жыццё ёй надаела? Мабыць так, тады няхай прыйме мае шчырыя словы глыбокага спачування. „Trzeba zobaczyć wiele miejsc, aby, i to nie jest pewne, mieć możliwość zrozumienia jednego”, — піша далей падарожніца. Дзеткі поўнасцю з ёю пагаджаюцца, прытым не з ляноты. Папросту ідэя дарогі-дому для іх нашмат больш прывабная, чым мая дому-дарогі.

— Госці будуюць мой светапогляд, ствараюць мяне, — тлумачу. У якасці прыкладу прыводжу асобу захопленага крынскай беларушчынай Ілы з Піцера.

— Як вы іх знаходзіце? — пытаюць.

— Я не шукаю, яны знаходзяць мяне, грукаюць у мае дзверы, а я ім іх адчыняю.

Разам аглядаем кніжныя фотаздымкі, між іншым, з сібірскіх эскапад спадарыні Скопэк. Некаторыя вельмі напамінаюць навакольныя пейзажы, іншыя адрозніваюцца бязмежным гарызонтам і прастатой чумацкага жыцця.

— Не трэба перціся на другі канец свету, каб пажыць у Сібіры, — тлумачу.

Адзін голас супраць — навошта рабіць сабе ў хаце месца неапісанай бяды і паўстанчай ссылкі. Усе астатнія глытаюць бацылу. Раздумваюць уласныя спосабы простага харчавання і жыцця без камп'ютара.

— Калі растуць свежыя кабачкі ў агародзе, магу штодзень есці з іх суп, у яблычным сезоне да кавы пяку толькі яблычны пірог.

— Але калі мая мама спячэ пірог, ён у той жа вечар знікае, — скардзіцца нехта. Іншы з сумам сцвярджае, што ягоная мама ўвогуле не пячэ, толькі кожны дзень у краму за пакупкамі ганяецца.

Спадарыня Скопэк піша таксама, што падарожжа стварае магчымасці пошукаў уласнай тоеснасці, якой яна ўсё-такі яшчэ не знайшла. Затое іншых акрэслівалась ёй нашмат лягчэй. „Przeciętny Rosjanin — on jest tutaj u siebie, to jest Rosja i Nieniec, czy jakiś tam Komi, czy chuj wie kto (przepraszam, ale tym ruskim jestem teraz), jeszcze powinien się cieszyć, że nikt go nie wypędził i się z nim jak z jajkiem cackają” (стар. 113 там жа). У супрацьвагу славутай падарожніцы цытую больш за дваццаць гадоў пражываючага на той жа Поўначы Марыюша Вілька: „Otóż ludzie zamieszkujący to Imperium (świadomie nie mówię teraz o Rosjanach, żeby nie wprowadzić elementu narodowościowego) są według mnie znacznie bardziej otwarci na świat niż Europejczycy, nie mówiąc o Polakach” (стар. 61 там жа). У сваю чаргу ўспамінаю нядаўніх гасцей — надзвычай сімпатычную пару індусаў, зацікаўленых маёй экзістэнцыяй у кантэксце нацыянальнай меншасці. Вялікая пані з Варшавы, якая іх да мяне прывезла, зразу пазатыкала нам усім раты. Мне, быццам сваёй прыгоннай, растлумачыла, што ў Крынках няма нацыянальных меншасцей, а на тэму супольнай бяседы выбрала славутую крынскую круглую плошчу.

І яшчэ адзіноцтва — асноўная ўмова метафізічнага кругаходу. „Kategoria obcości pomaga chyba w nieustannym zadawaniu pytań” (стар. 76 там жа). А калі ты рэпарцёр і перастаеш пытаць і здзіўляцца, лічы сябе трупам. Але здзіўляцца і быць чужым можна таксама пад сваёй хатай, паміж суседзямі, якія, быццам інапланецяне, увогуле цябе не разумеюць, хаця гаворыш на іхняй мове. І так сама можна канцэнтравацца на глытанні навакольнай рэчаіснасці, адкрываючы свабодны доступ да сябе людзям, якія цябе сустракаюць.

**Іаанна ЧАБАН**

[1] P. Brysacz, Patrząc na Wschód. Przestrzeń, człowiek, mistycyzm, Białystok 2013.

---

Асноўнае, што дырэкцыя школы ў Крынках прыняла гэту прапанову. Якраз папрасілі мяне правесці ўрокі польскай мовы, прытым дзве гадзіны запар. Школьная бібліятэка, у якой пакуль што працую, пасля рамонту не паспела яшчэ падняцца з каленяў. Дадаткова яна пад прыгнётам адукацыйнай рэформы ў выглядзе безлічы каробак з новымі, дарэмнымі падручнікамі. У мяне проста не было сіл шукаць адукацыйныя матэрыялы, таму ідэя з Галерэяй «Крынкі» аказалася адзіным збаўленнем і разумным вырашэннем праблемы даваных мне шасцікласнікаў.

Пры нагодзе ў Мартыны Маршалак з Фонду «Віла Сакратэс» папрасіла я ў якасці адукацыйнага дапаможніка выдадзеную ў 2016 кніжку «Галерэя «Крынкі» 2011-2016». Думала толькі яе пазычыць, а атрымала кніжку ў падарунку. Вельмі ж я расхвалялася, убачыўшы там здымкі птушак майго бацькі-разьбяра. Мяне ўсхвалявала, а дзетак заінтрыгавала. Ніколі ў жыцці такіх птушак не бачылі, ніколі не чулі пра майго бацьку. Аказваецца, прапусцілі яны таксама першую галерэйную выставу «Нашы ўлюбёныя здымкі» — некалі развешаную на платах крынскай Пагулянкі. Шасцікласнікі хутка палічылі, што было ім тады толькі сем гадоў. Гледзячы на сядзячых перада мной падлеткаў — хлопцаў і паненак — можна сказаць, што Галерэя «Крынкі» існуе тут цэлыя вякі. Рэчаіснасць, на жаль, выглядае крыху інакш. Ніхто з іх не быў тут раней. Ніхто з іх бацькоў тут таксама не быў. Праўда, неадночы тудою праходзілі, бачылі шыльду, але думалі, што гэта нейкая крама з заходнімі, старымі анучамі, прытым так старымі, што ў цэлых Крынках не было нікога, каму хацелася б увайсці ўсярэдзіну, каб іх набыць. Прыкмецілі, што ад часу да часу пад галерэяй запыняюцца нейкія аўтамабілі на чужых нумарах, але чаго яны тут шукаюць засталося для іх па сёння загадкай.

Фрагменты змешчанай ва ўзгаданай кніжцы размовы Паўліка Гжэся з Лявонам Тарасэвічам я выбірала на хаду, не ўяўляючы, у якім напрамку яна пойдзе. Праўду кажучы, мне самой было цікава пазнаёміцца са славутым Тарасэвічам прынамсі праз надрукаванае інтэрв'ю. Размаўляць асабіста з мастаком мне ніколі не прыйшлося, мабыць, за высокія парогі на мае ногі — як маўляюць у народзе. Такім чынам дзеткі пачулі пра беларускага пісьменніка з Крынак, іменем якога назвалі фонд, пра славутага мастака, які, хаця багаты, называе сябе беларусам. Яны пэўна б ва ўсё гэта не паверылі. На шчасце была з намі Мартына — жывая сведка цэлага замяшання. Асабіста апекавалася Сакратам, а яе бацькі з недалёкіх Лапічаў, былі гаспадарамі Сакратавых «Трыялогаў». Яна таксама застаецца ў асабістым кантакце з багатым мастаком-беларусам. Быццам іншапланетныя гісторыі набіраюць рэальнасці, свойскасці. Адкрываю кніжку на старонцы з лапіцкай хатай, а дакладней з вымаляванай славутым мастаком столлю.



— Ці ведаеце, — звяртаецца да дзяцей Мартына, — што гэтая столь вартая нашмат больш, чым цэлая хата, нават сабе не ўяўляеце колькі грошай яму за гэтыя абразы плацяць. Лепшы аргумент на падкрэсленне мастацкага прафесіяналізму цяжка прыдумаць. Дзецям ажно раты паадкрываліся ад уражання. Зараз яны пракаментавалі, што столь сапраўды цалкам цікавая, так як і падсветленыя кубікі на здымку перад той жа хатай. Кожны наступны раздзел кніжкі глыталі з увагай і захапленнем. Проста рваліся да падсоўваных ім пад нос чарговых ілюстрацый. У вандроўку па актуальнай выстаўцы ўключыліся быццам зачараваныя. Шкада толькі што з-за адсутнасці ноўтбукаў не змаглі паглядзець яе мультымедыйнай часткі. Канчаткова ў цэлым класе аказалася толькі двух «агентаў», якія замест вышэйшага мастацтва аглядалі наскі свайго абутку. Усе астатнія выказалі ахвоту да чарговых візітаў у галерэю.

Да прачытання выбрала я таксама фрагмент пра крынскае золата — цалкам някепскае тарасэвічаўскае выяўленне суконніцаў з фасадам праекта Кусмяроўскага ў самым цэнтры мястэчка. Яго выснову пра славутасць Крынак у цэлым свеце абаперла я зноў на Мартыне, якая навэрылася гарбаты ўсім айчынным і замежным гасцям Сакрата. Усё гэта выдатна паўздзейнічала на дзіцячую фантазію. «Паўстануць тут такія рэчы, на якія будзе запатрабаванне, а ўсё непатрэбнае адыдзе ў нябыт», — сказаў пра няшчасныя Крынкі ў тым жа інтэрв'ю Тарасэвіч. І я, і дзеткі былі згодны, што галерэя стане менавіта гэтым нябытам. Можа перавязуць яе з цэлым дабыткам у Варшаву. Сумны, але рэальны прывід. І справа тут не толькі ў абыякавасці мясцовага грамадства да высокай культуры. На маю думку «Віла Сакратэс» губляецца ў медыйным шуме вакол галерэйных хепенінгаў, у гонцы за прысутнымі ў гэтым шуме прозвішчамі. Пры тым забываецца пра асноўнае — працу над стварэннем звычайных, людскіх адносін з мясцовымі. Не ўсім гэты шум падабаецца, а бывае, што надта ён перашкаджае ў наладжванні рэальнага кантакту з культурай ці мастацтвам. Справа ў тым, што менавіта толькі на Варшаву накіроўвае чамусьці сваю ўвагу і энергію ўзгаданы фонд. Паўстае пытанне: ці гэта Галерэя «Крынкі», ці Галерэя «Варшава»? Czy to jest miłość, czy to jest kochanie?

**Іаанна (КРЫНКІ)**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)

www.e-zorka.pl

зорка

для дзяцей і моладзі

# Уражлівасць, прыгожасць, моц!

Беластоцкі «Народны альбом» можна лічыць культурнай з'явай на нашай маладзёва-беларускай сцэне. Гэта не толькі прыгожа праспяваныя песні, інсцэніроўкі ці вынаходлівыя музычныя інструменты і арыгінальны касцюмы.

— Гэтыя песні — частка нашай гісторыі, — кажа рэжысёр і пастаноўшчык п'есы настаўніца Аліна Ваўранюк.

А гісторыя такая: у мінулым годзе па ініцыятыве тэлеканала «Белсат» у Беластоцкай оперы і філармоніі адзначылі 20-годдзе «Народнага альбома». У ім выступілі зоркі беларускай музычнай сцэны: Лявон Вольскі, Зміцер Вайцюшкевіч, Кася Камоцкая, Аляксандр Памідораў, ды іншыя... Як не цікава, пасля гадоў спектакль не састарэў, не згубіў сваёй каларытнасці. Наадварот, некаторыя песні, напрыклад «Простыя словы», сапраўды сталі народнымі. Тут трэба дадаць што «Народны альбом» — чыста літаратурна-музычны праект. Ён выйшаў з-пад пяра мінскага паэта і мастака Міхала Анемпадыстава. Анемпадыстаў прыдумаў літаратурныя замалёўкі з жыцця беларускага мястэчка Ракаў напярэдадні 1939 года. Таму ў спектаклі карчомныя гісторыі, кантрабанда, панскі прыгнёт і прадчуванне вайны. Словам, вельмі сур'ёзныя, крутыя справы. Музыку, у сваю чаргу, прыдумалі названыя ўжо выканаўцы.

Тое, што адразу кідалася ў вочы на маладзёвай беластоцкай сцэне, гэта разуменне тэмы. Спектакль пачаўся з жартоўнага шэдэўра «Пад прыгнётам панскім». Гэты твор, нібыта надта сур'ёзна, праспявалі дзве знакамітыя салісткі: Юлія Баравік і Клаўдзія Сасна. У падобным стылі прагучала народная «Надзенька», якую заспявала і прадставіла Марыся Гапанюк. Яе сцэнічная гераіня была сапраўды бедным, наіўным басаногім дзяўчом, якога лёгка абмануць і вывесці пад дурнога хату. Марыся тут заявіла сябе не толькі як арыгінальная салістка, але як здольная акцёрка. Пасля настрой рэзка перамяніўся і ў цэнтры апынуліся хлопцы, якія сыгралі карчомную сцэну. Сваю мелодыю прабарабанілі на «народных» прыладах: маслабойцы, пранiку, кубку. Далей публіка прывітала «Аліцыю», «што ў кампаніі трох каляжанак чытала Гарацыя». Ролю цнатлівай і шляхетнай Аліцыі ў шлюбнай сукенцы выспявала прыгажуня Вікторыя Пякарская.

Паколькі я ўжо раней бачыла гэты спектакль, у напружанні чакала выступлення Зосі Ко-











нюх і Дам'яна Хаманюка. Гэтая таленавітая парачка чароўна ажыццявіла ваенны шэдэўр «Край ты мой край» — тут былі моц, уражлівасць і прыгожасць. Калі судзіць справядліва, у спектаклі не было слабых момантаў. Кожны раз нехта нанова ўражваў, захапляў або здзіўляў. Моладзь яшчэ раскалыхала залу. Калі напрыканцы пастаноўкі Юля Баравік завяла «Простыя словы», падключылася ўся публіка. Білі брава і выклікалі на біс!

— Я люблю «Народны альбом» і здаўна думала, каб зрабіць яго з моладдзю, — кажа Аліна Вваўранюк. — У свой час мы з мужам пераклалі яго на польскую мову. Аднак такім штуршком быў юбілейны канцэрт у беластоцкай оперы. А галоўнае, — дадае настаўніца, — я ведала, што наша моладзь справіцца з «Народным альбомам». Яны сапраўды палюбілі і зразумелі гэтыя песні.

У спектаклі выступіла наша сустрачанская аўтарка і сяброўка Клаўдзія Галінская. Яна была жывым звяном паміж мінскім і беластоцкім «Народнымі альбомамі». Праўда, у оперы Клаўдзія рабіла за статыстку, у сяброўскім — яна была зоркай!

Беластоцкі «Народны альбом» узнік як чарговы праект аб'яднання АБ-БА. Яго паказалі 17 верасня 2027 года ў кавярні «Змена клімату», дзе святкавалі 20-годдзе беларускага школьніцтва ў Беластоку. У пастаноўцы выступілі таксама Анна Карнілюк, Марыся Пякарская, Шыман Клімюк, Ксенія Клімюк, Дар'я Каспярук, Наталька Харужая і Кася Якімюк. Рэжысёрамі і пастаноўшчыкамі гэтай каларытнай п'есы былі настаўніца Аліна Ваўранюк і акцёр Бэрнард Баня. Брава Беласток!

**Зорка**

**Фота Ганны Кандрацюк**

*расквецім гісторыю*

# Беларусі

## 1919-1990. Жыццё ў БССР

### БЕЛАРУСЫ — РУПЛІВЫЯ.

У складзе СССР Беларусь не мела сапраўднай самастойнасці і амаль цалкам падпарадкоўвалася загадам з Масквы, але нават у такіх умовах, дзякуючы руплівасці і стваральнасці людзей, вялася паступовая разбудова краіны.

Беларусы даюць савецкай краіне цэлы шэраг выдатных навукоўцаў, вынаходнікаў, вайскоўцаў, касманаўтаў. Праўда пра Другую сусветную вайну, паказаная ў кніжках Васіля Быкава, перакладзена на мовы свету, стала агульнасусветным набыткам людзей.

«Песняры», бліскучыя спалучальнікі сучасных рытмаў і фальклору, робяць беларускую спеўную традыцыю вядомай на ўсю Еўропу.



Станіслаў Валодзька

**ДАНА**

„Р" не выгаварыць Дана,
Замест „крама" кажа „квама".
Мама гушкае дачушку:
— Данка, ты мая квакушка.

**ДЗЕ Ж ЛЯЛЬКА?**

Ляльку зноў шукае Даша.
— Мо, схаваў дзе Барабаша —
Дамавік?
— Альбо панёс
Ляльку Барбі
Пёс Барбос?

**ВОСЕНЬСКІ ДОЖДЖЫК**

Дожджык восенню прастуджаны —
Ходзіць басанож па лужах.

Ён пастукаўся ў акенца:
— Можа, пусціце пагрэцца?

Ды, нябогу, не маглі мы
Палячыць мядком, малінай.

На кірмаш пайшлі мы з мамай.
І пакрочыў дожджык з намі.

Дожджык боцікі тут купіць
І прастуда ўраз адступіць.

Ў новых боціках прыгожых
Ён пайсці у скокі можа!



Гайнаўскія сябры на Сустрэчах Зоркі

## Бульбяны падарунак

Аднойчы дзяўчынка Фернанда згубілася ў лесе. Яна блукала цэлую ноч. Пачула дзіўныя галасы. Насупраць ёй ішла чорная, таямнічая постаць. Стварэнне падарыла Фернандзе бульбу. Дзяўчынка з'ела са смакам падарунак.

Гэтая бульба не была бульбай.

Калісь гномік зачараваў хлопчыка. Яго дух уступіў у цела Фернанды. З таго часу дзяўчынка бачыць праз сцэны.

*Вучні класаў V-VII Пачатковай школы № 1 у Гайнаўцы.*

Уладзімір КАРАТКЕВІЧ

## Лісце

Восень прайшла пералескамі,
Па няголеным ржышчы ніў,
Чырвонымі арабескамі
Лісце лес ураніў.
Глянь на зямлю залатую,
Пяшчотную, сумную, чыстую,
Нехта па ёй вандруе,
У паветра ўзнімаючы лісце.
Струменьчыкам тонкім лісце.
Медзь на азёрах сплывае,
Сум у небе імглістым...
Як песня, з галін злятае
Лісце, лісце,
Залацістае лісце,
Сто лісцяў,
Дзесяць лісцяў,
Ліст.

## УВАГА КОНКУРС! № 40-17

**Загадкі з роднай хаткі**

**Гляньце, гляньце: з кожнай кветкі**
**Вырас церам на дварэ.**
**Ён без вокнаў, без дзвярэй,**
**А ў ім чорненькія дзеткі.**
**М......**

**(У. Мацвеенка)**

**Разгадайце загадку, адказ дашліце ў „Зорку" да 8 кастрычніка 2017 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.**

**Адказ на загадку № 36-17: парсюк. Узнагароды, наклейкі, выйгралі Вікторыя Гаць і Дам'ян Карнілюк з Бельска-Падляшскага. Віншуем!**

## Польска-беларуская крыжаванка № 40-17




Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 36-17:** Міг, коска, асоба, лінк, ежа, пінгвін, віно, аналаг, мова, аса, ода, ла, ар, бар. Ікс, піва, сліна, кіно, ранг, ар, квас, Іна, сена, Сож, лоб, балада.

Узнагароды, наклейкі, запісныя кніжкі, выйгралі **Дам'ян Карнілюк, Магда Якубюк, Вікторыя Гаць** з КШ з ДНБМ у Бельску-Падляшскім. Віншуем!

**Каля тысячы хадуноў, прыхільнікаў скандынаўскай хадзьбы з палкамі «Nordic Walking» са шматлікіх мясцовасцей Польшчы, жыхары Беларусі і паасобныя хадуны з іншых краін прынялі ўдзел у VII фінале Кубка Польшчы «Nordic Walking», які 9 верасня быў наладжаны Польскай федэрацыяй «Nordic Walking», Гайнаўскім стараствам і Гайнаўскім надлясніцтвам у Гайнаўцы і яе наваколлі. Хадуны з палкамі ў руках ішлі на дыстанцыях 5, 10 і 21 кіламетраў па сцяжынках, пралягаючых праз Белавежскую пушчу. У мінулым годзе на спаборніцтвы «Nordic Walking» прыехаў у Гайнаўку толькі адзін хадун з Беларусі, а ў гэтым годзе прыбыло больш за дваццаць фанатаў скандынаўскай хадзьбы, перш за ўсё з Брэста і Гродна, дзе ўжо дзейнічаюць клубы хадзьбы з палкамі. У гэтым і мінулым гадах пераможцам гайнаўскага фіналу Кубка Польшчы «Nordic Walking» на самай прэстыжнай дыстанцыі, паўмарафоне, стаў хадун і заадно баскетбаліст з Гродна Андрэй Дзядзевіч.**



# Фінал Кубка Польшчы «Nordic Walking» у Гайнаўцы

— Фінал Кубка Польшчы «Nordic Walking» гэта вялікая прамоцыя нашага рэгіёна на Польшчу і замежжа, хаця трэба было прыўнесці свой грашовы ўклад у арганізацыю гэтага мерапрыемства. Кубак Польшчы мы суарганізуем шосты раз, але ў мінулым годзе і сёлета пераканалі мы Польскую федэрацыю «Nordic Walking», каб фінал Кубка Польшчы арганізаваць у нашай прыгожай Белавежскай пушчы. Прыезджыя даюць нашым жыхарам станоўчы прыклад, як можна паклапаціцца пра сваё здароўе і актыўна адпачываць, ходзячы з палкамі. Нашы людзі сталі хадзіць з палкамі і сёння многа жыхароў Гайнаўскага павета прыняло ўдзел у фінале. Магло ў ім прыняць удзел да тысячы чалавек і столькі ж асоб мы зарэгістравалі. Сярод іх былі таксама хадуны з Беларусі, Расеі і Германіі, — сказаў староста Гайнаўскага павета Міраслаў Раманюк.

Фінал Кубка Польшчы «Nordic Walking» арганізаваўся пад патранатам падляшскага ваяводы, маршалка Падляшскага ваяводства і генеральнага дырэктара Дзяржаўных лясоў. Эдыта Кяндзерская з Польскай федэрацыі «Nordic Walking» выказала задавальненне з-за вялікай колькасці гайнавян, якія ў якасці валанцёраў дапамагалі ў арганізацыі мерапрыемства. Да фінальнага спаборніцтва многія яго ўдзельнікі рыхтаваліся доўга ў час інтэнсіўных і частых трэніровак. Асабліва трэба было рыхтавацца, каб бяспечна прайсці самую доўгую дыстанцыю — 21 кіламетр, а нават дыстанцыю 10 кіламетраў. Рэкрэацыйнай для многіх удзельнікаў гайнаўскага фіналу была хадзьба на дыстанцыі 5 кіламетраў, якую праходзілі многія жыхары Гайнаўскага павета без папярэдняй фізічнай падрыхтоўкі. Трэба было навучыцца толькі тэхніцы хадзьбы з палкамі, бо асобы, якія назіралі на трасе за хадунамі спыняў, якія няправільна карысталіся палкамі. Хадзьба з палкамі была прыдумана менавіта для таго, каб прымусіць мышцы рук, плячэй і іншых частак цела да інтэнсіўнай працы. У гайнаўскім фінале прымалі ўдзел таксама асобы, якія раней бегалі ў марафонах, а зараз пачалі трэніравацца па хадзьбе з палкамі, бо тая больш бяспечная.

— Бегаць дзеля захавання добрага здароўя не ўсе ў змозе, хаця б калі ў іх хворыя суставы, а хадзіць з палкамі бяспечна людзям розных узростаў, — сказаў гайнаўскі лекар, які ішоў падчас фіналу на дыстанцыі 5 кіламетраў.

Надляснічы Гайнаўскага надлясніцтва Рыгор Бялецкі расказаў пра Белавежскую пушчу, якая прыцягвае на спаборніцтвы. Калі хадуны выйшлі на дыстанцыі 21 і 10 кіламетраў і адбылося афіцыйнае адкрыццё спартыўна-рэкрэацыйнага мерапрыемства, тады спецыяльна прыдуманую размінку пачалі каля 750 чалавек, якія рыхтаваліся да хадзьбы на дыстанцыі 5 кіламетраў. Сярод іх было многа гайнавян, а ў іх ліку былы бургамістр Анатоль Ахрыцюк, віцэ-староста Ядвіга Дамброўская, дырэктар Пачатковай школы № 4 (раней ПШ № 6) Бажэна Маркевіч, настаўніцы і вучні гэтай школы, дырэктар Комплексу школ у Дубінах Аліна Гінст і настаўніцы фізкультуры Гайнаўскага белліцэя Ірэна Грыгарук і Бажэна Шакала-Ефімюк з вучнямі.

— З нашай школы ў фінале прымае ўдзел каля ста вучняў і настаўнікаў. Гэта станоўчы прыклад для моладзі як весці здаровы лад жыцця. Мы разам з дырэктар Комплексу школ у Дубінах Алінай Гінст супольна ходзім з палкамі і прымаем удзел у спаборніцтвах па скандынаўскай хадзьбе, — заявіла дырэктар Бажэна Маркевіч.

Хаця дзяўчаты з белгімназіі і белліцэя спецыяльна з палкамі не трэніраваліся, але прыбылі, каб прайсціся па пушчы і паспаборнічаць з равеснікамі з іншых гайнаўскіх школ, якія ў вялікай колькасці прыступілі да спаборніцтва.

— З нашага Комплексу школ з дадатковым навучаннем беларускай мовы ў Гайнаўцы ў спаборніцтвах прымае ўдзел некалькі дзесяткаў чалавек. Я хадзіла з палкамі на спаборніцтвах раней, а зараз займаюся арганізацыйнымі справамі і дапамагаю нашым вучням, — сказала настаўніца фізкультуры Бажэна Шакала-Ефімюк.

На трасу выходзілі жанчыны і мужчыны ў паасобных узроставых катэгорыях. Першымі на мэту сталі прыходзіць пераможцы на дыстанцыі 10 кіламетраў, пасля пераможцы дыстанцыі паўмарафону і найпазней паявіліся на мэце асобы, якія найхутчэй прайшлі дыстанцыю 5 кіламетраў і тады на мэце станавілася мнагалюдна. Адбыліся таксама спаборніцтвы для дзетак ва ўзросце 2-7 гадоў.

У Беларусі няма яшчэ вялікай моды хадзіць з палкамі і фанатаў гэтага спосабу адпачынку таксама мала. Аднак гэта мяняецца. Гарадзенец Андрэй Дзядзевіч здабыў першыя месцы ва ўсіх мясцовасцях, у якіх спаборнічаў у рамках Кубка Польшчы «Nordic Walking». Не прыняў удзелу толькі ў двух з сямі спаборніцтваў і таму ў агульным падліку заняў другое месца ў катэгорыі 30-39 гадоў.

— У Беларусі няма яшчэ масавай моды, як у Польшчы, хадзіць з палкамі, але паўсталі ўжо клубы «Nordic Walking» у Гродне і Брэсце і некалькі дзесяткаў асоб з гэтых гарадоў прымае ўдзел у сённяшніх спаборніцтвах. Я займаюся баскетболам, але хаджу таксама з палкамі і трэніруюся па гэтай дысцыпліне. Траса па Белавежскай пушчы вельмі прыгожая і па ёй ішлося мне вельмі добра, — сказаў Андрэй Дзядзевіч, які, прыйшоўшы на мэту з найлепшым часам на дыстанцыі 21 кіламетр, адказваў на пытанні журналістаў.

— Андрэй Дзядзевіч гэта незвычайная асоба, з незвычайна моцным арганізмам. Ён прыязджае з Беларусі і перамагае на дыстанцыі 21 кіламетр ва ўсіх спаборніцтвах «Nordic Walking» у Польшчы, дзе паявіцца. Падчас Кубка Польшчы «Nordic Walking» я прыходзіў другі за ім, а розніца паміж намі была 7-8 мінут. Сёння Андрэй Дзядзевіч ішоў пасля хваробы. Таму я бачыў яго перад сабой і апярэдзіў ён мяне толькі на больш чым мінуту, — гаварыў Ольгерд Дэпка-Пранdзынскі з Гдыні, які прыйшоў на мэту з другім часам на дыстанцыі 21 кіламетр і быў першым ва ўзроставай катэгорыі 50-59 гадоў.

Якуб Зарэмба з Белавежы з трэцім часам прыйшоў у катэгорыі 30-39 гадоў, у якой ішоў менавіта Андрэй Дзядзевіч. Марыёля Пасікоўска з мясцовасці Жаркі найхутчэй прайшла дыстанцыю 21 кіламетр з ліку ўсіх жанчын. Перамагла яны ў катэгорыі 30-39 гадоў і выказала задавальненне, што чарговы раз перамагла ў фінале Кубка Польшчы «Nordic Walking». Чацвёртае месца ў катэгорыі 30-39 гадоў заняла Анна Рэй з Гайнаўкі, якая змагалася ў розных мясцовасцях Польшчы і ў агульным падліку заняла трэцяе месца ў сваёй катэгорыі. Сёмага месца ў гэтай катэгорыі дабілася ў Гайнаўцы выпускніца Гайнаўскага белліцэя Анна Нікіцюк, якая вядомая з працы ў арганізацыйным бюро Міжнароднага фестывалю «Гайнаўскія дні царкоўнай музыкі». Сказала яна, што больш інтэнсіўна трэніруецца па хадзьбе з палкамі некалькі гадоў і быў гэта яе свядомы выбар паспрабаваць сіл на самай прэстыжнай, але адначасна складанай дыстанцыі 21 кіламетр. Выпускнік Гайнаўскага белліцэя Лукаш Карпюк заняў у Гайнаўцы другое месца на дыстанцыі 5 кіламетраў у катэгорыі 18-29 гадоў.

— Тут самыя лепшыя сцяжынкі для хадзьбы з усіх месцаў, дзе адбываўся фінал Кубка Польшчы «Nordic Walking». Яны проста небывалыя, а Белавежская пушча нас усіх захапляе, — заявіў Пётр Няхвейчык са Свентахлавіцаў, які першым прыйшоў на дыстанцыі 10 кіламетраў.

Дыстанцыю 5 кіламетраў першым прайшоў Караль Сцілер з Чанстаховы, які сябруе з Андрэем Дзядзевічам. Заўважыў я, што ўсе лідары хадзьбы з палкамі на паасобных дыстанцыях добра ведаюць адзін аднаго. Удзельнікі фіналу Кубка Польшчы «Nordic Walking» жылі і харчаваліся перш за ўсё ў навакольных аграгатэрах, якія найбольш даступныя кішэні звычайных жыхароў. Мода хадзіць з палкамі, згодна са стандартамі «Nordic Walking», пашыраецца на Гайнаўшчыне. Пасля спаборніцтваў пераможцы ў сваіх катэгорыях атрымалі кубкі і ўзнагароды, а перад сабранымі запрэзентаваліся духавы аркестр Дзяржаўнай пажарнай аховы ў Гайнаўцы і мажарэткі. Сярод удзельнікаў спаборніцтваў адбылася жараб'ёўка і ўласніца новага аўтамабіля «Suzuki Swift» ад'ехала на ім у напрамку Кашаліна. Вечарам праходзілі інтэграцыйныя гульні, а на наступны дзень удзельнікі спаборніцтваў маглі яшчэ праехацца па Белавежскай пушчы і захапляцца яе прыгажосцю.



Андрэй Дзядзевіч з Гродна

Тэкст і фота **Аляксея МАРОЗА**

# Даследчыкі з Беларусі і Польшчы ўзялі ўдзел у Міжнародным кангрэсе

**Кульмінацыйным момантам святкавання 500-годдзя беларускага кнігадрукавання стала правядзенне 14-15 верасня Міжнароднага кангрэса ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі**.

Ён быў арганізаваны Міністэрствам культуры і Нацыянальнай бібліятэкай Беларусі і праходзіў пад патранатам ЮНЭСКА. У Мінск прыехалі вядучыя спецыялісты бібліятэк, музеяў, архіваў, выдавецтваў, адукацыйных і навукова-даследчых устаноў з 24 краін. Цікавасць да мерапрыемства выказалі пісьменнікі і кнігавыдаўцы, бібліёграфы і бібліятэкары, мастакі і журналісты, прадстаўнікі розных хрысціянскіх канфесій.







Ва ўступным слове выдавецкую дзейнасць Францыска Скарыны ў еўрапейскім, славянскім і беларускім кантэксце прааналізаваў доктар філалагічных навук, член-карэспандэнт НАН Беларусі Аляксандр Лукашанец. „Беларускае пісьменства мае працяглую традыцыю, а беларуская літаратурна-пісьмовая спадчына — важная частка сусветнай культуры”, — адзначыў ён.

15 верасня, у Дзень бібліятэк, святкавалася 95-годдзе галоўнага кнігасховішча і скарбніцы ведаў — Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі. У XXI стагоддзі яна ператварылася ў буйнейшы навукова-даследчы цэнтр і ўдзельнічае ў стварэнні адзінай інфармацыйнай прасторы.

Даследчыкі Скарынавай спадчыны з Польшчы, Чэхіі, Расіі, Беларусі, Латвіі на пасяджэннях у секцыях пазнаёмілі са сваімі апошнімі знаходкамі, абмеркавалі спрэчныя пытанні. Пра свае манаграфіі і даследаванні распавялі кандыдат культуралогіі Алесь Суша і доктар гістарычных навук Георгій Галенчанка з Менска, доктар філалагічных навук Юры Лабынцаў і кандыдат філалагічных навук Ларыса Шчавінская з Масквы, Зоя Ярашэвіч з Ольштына і іншыя навукоўцы.

„Францыск Скарына паўстае перад сучаснікамі як велічная асоба праз творы мастацтва: скульптуру, графіку, жывапіс. Ён звязвае беларускую культуру з заходнееўрапейскай традыцыяй”, — нагадаў Алесь Суша.

„Асобу першадрукара да гэтага часу акружаюць гіпотэзы, загадкі, легенды. Не пацверджаныя дакументамі факты часам прызнаюцца за ісціну”, — адзначыў Ігар Котаў з Чэхіі.

„Чалавек кніжнай культуры, доктар лекарскіх навук, багаслоў і філасоф, садоўнік і батанік з’яднаныя ў асобе Францішка Скарыны. Але для хрысціян ён, у першую чаргу, перакладчык і выдавец Бібліі”, — падкрэсліў пастар пратэстанцкай царквы Яна Прадвесніка Антоній Бокун.

Прадстаўнік лонданскай Скарынаўскай бібліятэкі айцец Сергій распавёў пра лёс асобнікаў кніг, якія знаходзяцца ў Лондане. Прафесар БДУ, доктар філалагічных навук Вячаслаў Рагойша прааналізаваў малітваслоўны вершаваны стыль Францыска Скарыны. Матвей Вячорэк з Польшчы, Ясна Малешыч са Славеніі, Вераніка Косаван з Малдовы ўзялі ўдзел у Міжнародным круглым стале „Дакументальная спадчына ў Цэнтральнаеўрапейскім рэгіёне”.

14 верасня ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі адбылося ўрачыстае адкрыццё выставы ***Францыск Скарына і яго эпоха***, на якую запрасіў гасцей яе дырэктар, доктар педагагічных навук, прафесар Раман Матульскі. Выставу наведалі прадстаўнікі дыпламатычнага корпуса, ганаровыя госці, прадстаўнікі духавенства, даследчыкі і навукоўцы, пастаянныя чытачы бібліятэкі.

У светлым прасторным памяшканні на шкляных паліцах размешчана 61 кніга, якая выйшла са скарынаўскіх варштатаў у Празе і Вільні. Іх перадалі для часовага экспанавання архівы і бібліятэкі з Расіі, Польшчы, Германіі і іншых краін.

У экспазіцыі прадстаўлены таксама еўрапейскія біблійныя выданні з Германіі, Італіі, старадрукі з Францыі і Швейцарыі канца XV стагоддзя — папярэднікі Скарынавых кніг. Цэнтральнае месца на выставе займае менавіта Біблія, выдадзеная ў Празе ў 1517 годзе. Наведвальнікі выставы агледзелі друкарскае абсталяванне тых часоў і змаглі адціснуць некалькі аркушаў з тэкстамі і гравюрамі, пабачылі сучасную паліграфічную тэхніку.

Падводзячы вынікі працы кангрэса, Алесь Суша адзначыў: „Найбольш плённымі былі тры пасяджэнні секцыі ***Францыск Скарына: асоба, дзейнасць, спадчына***, на якіх прагучалі разнастайныя выступленні спецыялістаў. Даследчыкі агучвалі найважнейшыя праблемы скарыназнаўства. Глыбокія навуковыя даклады прагучалі пра захаванне скарынаўскіх збораў у Расіі, Украіне, Чэхіі”.

Мерапрыемства стала святам, якое паяднала скарыназнаўцаў з розных краін і ўсіх, хто шануе духоўную спадчыну першадрукара.

Тэкст і фота **Элі ДЗВІНСКАЙ**

# Нас запрасілі

Размова з дырыжорам **Святланай ТРУШЫНАЙ** і музыказнаўцам **Аленай ВАСІЛЬЕВАЙ** з Жаночага хору „Мірум” Наваполацкага дзяржаўнага музычнага каледжа. Хор удзельнічаў у XXXVI Міжнародным фестывалі царкоўнай музыкі «Гайнаўка – 2017»



**— Раскажыце, калі ласка, пра гісторыю Вашага хору.**

**Святлана Трушына:** — Я працую ў музыкальным каледжы, кірую жаночым хорам ад 1993 года. Асноўная функцыя нашага знакамітага калектыву — вучэбная. Вучым дзяцей дырыжыраваць, вучым іх спяваць і штогадова мы рыхтуем вельмі цікавую праграму дзяржаўнага экзамену — гэта наша галоўная мэта. Канцэртная дзейнасць, як такая, і ўдзел у конкурсах пачаліся ў нас літаральна ў апошнія два-тры гады, а — на жаль, і шчасліва — гэта першы наш выезд на міжнародны ўзровень. Ведаеце, вельмі хочацца спрабаваць.

**— А як да гэтага дайшло?**

**С. Т.:** — Нас запрасілі. Мы, шчыра кажучы, не ведаем хто, хто парэкамендаваў наш калектыў, магчыма, што нехта нас недзе чуў; мы атрымалі запрашэнне цалкам нечакана і, шчыра кажучы, хочам вельмі падзякаваць гэтаму чалавеку, які нас сюды запрасіў. Мы не ведаем хто ён і гэта вельмі прыемная нечаканасць.

**— Вы ўпершыню ў нас, у Польшчы?**

**С. Т.:** — Ведаеце — мы цяпер раскрыем вельмі такую вялікую тайну, вельмі цікавы выпадак — у складзе Полацкага камернага хору пад кіраўніцтвам Людмілы Жукавай мы былі лаўрэатамі першага прыза фестывалю ў Гайнаўцы ў 1991 годзе. Наша „Алілуя” Рамуальда Твардоўскага, нашага любімага кампазітара, была прызнана эталонным выкананнем. Мы вельмі падружылі з кампазітарам і вельмі многа спявалі ягонай музыкі; ён спецыяльна пісаў для нашага Полацкага камернага хору. Тады мы былі маладымі спявачкамі, спявалі ў складзе Полацкага камернага хору.

**— У Вас, відаць, быў нейкі кантакт са спадаром Твардоўскім?**

**С. Т.:** — Мы пасябравалі, наш кіраўнік вёў творчую перапіску з ім...

**— А Вы не падазраваеце, што гэта ён мог вас рэкамендаваць?**

**С. Т.:** — Не надта, таму што цяпер мы прыехалі ўжо ў якасці педагогаў, мы прывезлі свой хор...

**— Значыць, Вы прывезлі чарговае вакальнае пакаленне...**

**С. Т.:** — Мы вырасцілі дзяцей і вось мы прывезлі іх. У нас атрымалася вельмі цікавая творчая пераемнасць; таму нам вельмі прыемна, нам падабаецца. Мы не спадзяваліся, што спадар Рамуальд будзе старшынёй журы. Вось такім незвычайным спосабам мы сюды прыехалі.

**Алена Васільева:** — Хачу да гэтага дабавіць, што мы спяваем не толькі праваслаўную музыку — хор маладзёжны, нашы спевакі спяваюць самую разнастайную праграму. У іх ёсць праграмы з тэатралізацыяй, з рухам на сцэне — гэта такая сучасная харавая тэндэнцыя. І ў іх такая вялікая, у тым ліку і маладая, аўдыторыя. Таму, што, агульна кажучы, на акадэмічныя канцэрты прыходзяць старэйшыя слухачы, якіх цягне ў бок класікі, якія інтэлектуальна багатыя, з жыццёвым накапленнем. А калі прыходзіць маладая аўдыторыя, гэта падаецца таксама вельмі цікавай творчай з’явай. На канцэртах яны слухаюць не толькі папулярную музыку, не толькі рок, скажам, але яны слухаюць паралельна класіку і такім чынам агульна прасоўваюцца наперад; мы іх падцягваем за сабою.

**— Вы сказалі пра праваслаўную музыку ў Вашым рэпертуары; а што пра заходнееўрапейскую?**

**А. В.:** — Выконваем таксама заходнееўрапейскую музыку, у рэпертуары вельмі многа сучаснай музыкі, сучасных аўтараў з вельмі складанымі партытурамі, у тым ліку і сакральнымі. І фінская музыка ў нас ёсць, вельмі многа прыбалтыйскіх кампазітараў — гэта вельмі цікавыя кампазіцыі, пішуць сучасныя гармоніі, гэта санорная такая музыка, але па сэнсавай глыбіні яна духоўная; сучасная яна па выканаўчых прыёмах.

**— А ці выконваеце творы беларускіх кампазітараў?**

**С. Т.:** — Вядома, мы іх вельмі любім.

**— А польскіх, апрача Твардоўскага?**

**С. Т.:** — Юзаф Свідар, гэта адзін з нашых любімых кампазітараў; дарэчы, сёлета на дзяржэкзамене мы будзем спяваць яго „Раннюю музыку”.

**А. В.:** — Вельмі любім Кшыштафа Пэндэрэцкага, але наш састаў невялікі для выканання ягонай музыкі. Таксама цікавы нам Марцін Камінскі.

**— А як далёка Вы бывалі на гастролях?**

**С. Т.:** — Пакуль толькі па Беларусі. Таму, што мы самі фінансуем свае паездкі і мы не можам так часта выязджаць, гэта складана, але спадзяемся, што мы зможам прынамсі раз у год пабываць на нейкім конкурсе ці фестывалі ў Еўропе; мы вельмі гэтага хочам.

**— А па Беларусі, дзе Ваш хор выступае?**

**А. В.:** — Ну, наш Віцебскі рэгіён, вядома, бываем у сталіцы. Любыя выезды нам фінансава складаныя і таму яны нячастыя; усё залежыць ад умоў, якія нам прапануюць.

**С. Т.:** — Дзеці галоўным чынам вучацца. Мы гэтым вельмі звязаны, але канцэртная дзейнасць не спыняецца. Хацелася б выступаць часцей.

**А. В.:** — У горадзе любяць наш хор, у нас не толькі акапэльная музыка, мы спяваем з суправаджэннем, у хоры выдатны канцэртмайстар Аксана Матвейчанка. Ёсць яшчэ такая інструментальная група для сучаснай маладзёжнай праграмы.

**С. Т.:** — Мы спяваем рок, мы спяваем Фрэдзі Меркуры „Багемскую рапсодыю”; „Somebody to Love” мы будзем спяваць на дзяржэкзамене, таму мы гэта вельмі любім. Вельмі любім джаз, спяваем джазавыя партытуры.

**— Дзякую Вам за змястоўную размову. Усяго Вам добрага.**

Пытанні і фота **Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

*Эпісталярый*

# Ліст ад Алены Анішэўскай

Напрыканцы 2008 года напісаў я пісьмо-просьбу ў Варшаву да Алены Анішэўскай. Напісаць старэйшай беларускай пісьменніцы ліст была нагода. Справа ў тым, што я тады актыўна шукаў розных звестак пра жыццё беларусаў у Варшаве ў першай палове ХХ стагоддзя. А раптам, падумаў, спадарыня Анішэўская нешта пра беларусаў Варшавы ведала. Ці можа нешта ёй трапіла з жыцця і творчасці тых беларусаў, якія жылі ў Варшаве ў 1900-1939 гадах? Рознае ў жыцці здараецца, таму абмінуць старэйшую беларускую літаратарку я не мог.

Праз пэўны час атрымаў ад Алены Анішэўскай ліст. Ён захоўваецца ў маім хатнім архіве. Нядаўна яго зноў перачытаў. І хоць ліст мяне тады гістарычнымі фактамі пра беларусаў пачатку ХХ стагоддзя не парадаваў, але ж прыемна было атрымаць такі шчыры і добры ліст. Думаю і чытачам „Нівы” гэты ліст будзе цікавы. А пісала Алена Анішэўская вось што:

„Паважаны спадар Сяргей Чыгрын! Дзякую Вам за Вашы цёплыя, сардэчныя словы-віншаванні на Новы 2009 год. Прыміце і ад мяне пажаданні для Вас і Вашых блізкіх здароўя, поспехаў ва ўсіх справах, якія даводзіцца Вам здзяйсняць. Вось хаця б гэтую, з якой Вы звярнуліся да мяне. Паважаны спадар Сяргей, на жаль, я не магу Вам дапамагчы ў гэтай справе. З Беластока ў Варшаву я прыехала ў сярэдзіне 1950-х гадоў. Пакуль сутыкнулася з беларускай меншасцю, прайшло шмат часу. Я чула ад нейкіх асобаў, якія прыходзілі ў Беларускі клуб на вуліцу Сенатарскую, што перад вайной у Варшаве дзейнічала беларуская меншасць. Але я з нікім такім не сустракалася. Пытала я ў нашых варшаўскіх беларусаў — Юры Туронка, напрыклад. Ён крыху займаўся гісторыяй, адказаў мне, што ў „Беларускім календары”, які штогод выдаецца БГКТ у Беластоку, у нумары за 1980 год было шмат напісана пра беларускія справы ў даваеннай Варшаве. Звярнулася я да прафесара Аляксандра Баршчэўскага. Ён паабяцаў, што перагледзіць свой архіў, можа што знойдзе. Патэлефанавала ў рэдакцыю „Нівы” у Беласток і Міра Лукша сказала, што магчыма і ў іх знойдзецца той каляндар. Застаецца мне яшчэ адно месца, але з гэтым мушу пачакаць. Думаю пра жонку нашага знакамітага дзеяча Яна Жамойціна. Яго ўжо няма ў жывых. Памёр 6 гадоў таму. Перад вайной ён вучыўся ў Варшаве, а паходзіў з беларускай Віленшчыны. Магчыма яшчэ штосьць засталося з яго архіва. Жонка яго выехала і вернецца пад канец лютага. Можа там і што знойдзецца.

Гэта ўсё, што я магу зрабіць для Вас. Калі б Вы хацелі патэлефанаваць у БГКТ у Беласток і запытаць, ці не маюць таго календара, то падаю тэлефон... Там, дзякаваць Богу, дасюль дзейна займаюцца беларускімі справамі Ян Сычэўскі і Валя Ласкевіч. Калі яшчэ штосьць здабуду, падам Вам вестку. Усяго добрага Вам і Вашай сям'і. А. Анішэўская.

P.S. Здзівіла мяне прозвішча Мельхіёра Ваньковіча. Ніколі не прыйшла мне ў галаву думка, што ён не паляк! Людмілу Панько пазнала, яна сарганізавала хор, называлі яго (той хор) праваслаўны, а часам беларускі. Але не ведаю, ці яна яшчэ жывая. Пастараюся даведацца. А. А.”.

Вось такі адзіны ліст я атрымаў ад Алены Анішэўскай. Нагадаю яшчэ, што яна нарадзілася ў траўні 1927 года. Маленства прайшло ў роднай Белавежы. Пасля вайны Алена Анішэўская вучылася і працавала ў Беластоку. З 1953 года жыла ў Варшаве, скончыла рускую філалогію Варшаўскага педінстытута. Працавала перакладчыцай у Варшаўскай адміністрацыі. Першыя творы з'явіліся ў „Ніве” у 1983 годзе. Выдала зборнік вершаў „Смак жыцця” (1998). Памерла Алена Анішэўская 17 студзеня 2013 года ў Варшаве.

Сяргей ЧЫГРЫН




У невялікім спісе беларускамоўных жаночых сайтаў папаўненне. Найстарэйшая беларуская газета „Наша ніва” надоечы запусціла ў інтэрнэце новы праект выдання, які мае назву „Наша Ніна” і арыентаваны выключна на жаночую аўдыторыю. Зразумела, такая падзея не магла застацца незаўважанай на кволенькім беларускім медыярынку, і навіна пра „Нашу Ніну” з'явілася на іншых сайтах Байнэту.

„Гэта першы ў свеце беларускамоўны рэсурс для жанчын. Нарэшце ў беларусак з'явілася ўласная пляцоўка, дзе яны могуць выказваць свае думкі, перажыванні, абмяркоўваць тое, што іх хвалюе. «Нашу Ніву» сёння найперш чытаюць мужчыны — 65% аўдыторыі. Мы хочам, каб «Нашу Ніну» адкрывалі іх жонкі, сёстры, маці і дочкі. Мужчын таксама чакаем у госці: упэўненыя, вам будзе пра што падумаць”, — перадае словы „нашаніўцаў” сайт Беларускай асацыяцыі журналістаў.

Уласна на сайце „Ніны” так падаецца выбар назвы. «Ніна — гэта старажытнае асірыйскае імя, якое абазначае ў перакладзе „Царыца”, „Спадарыня”. Па-мойму, „Наша Ніна” — найлепшая назва для сайта беларускіх жанчын. „Наша Ніна” — наша спадарыня! Віншую ўсіх нас!» — распавядае адна з чытачак газеты Алена Гушча. Стваральніцамі новага рэсурсу выступілі журналісткі Настасся Роўда і Кацярына Карпіцкая.

Калі зазірнуць на сайт „Нашай Ніны”, які месціцца па адрасе https://nina.nn.by, то ён аформлены і пабудаваны згодна сучасных тэндэнцый пабудовы сайтаў. Уверсе цэлага выяўлення знаходзіцца „моўны перакладчык” з беларускай на рускую мову і наадварот. Ніжэй пад назвай — галоўны тызер з выйсцем на топавы артыкул „Ніны” на даны момант. Цікава, што топавыя артыкулы ў беларускай і рускай моўных версіях адрозніваюцца. Так, на момант напісання данага матэрыяла найгалоўнейшым артыкулам па-беларуску на сайце „Нашай Ніны” быў расповед пра актрысу Ганну Хітрык, а па-руску — пра тое, як жанчына шукала сваю другую палавінку пры дапамозе аднаго мабільнага дадатка.

Стваральніцы новага рэсурсу палічылі, што ён не мусіць мець такіх рубрык як, напрыклад, палітыка ці эканоміка. З гэтай прычыны там рубрыкі, назвы некаторых могуць падацца мужчынам нейкімі легкадумнымі: „Каханне”, „Сям'я”, „Дом”, „Трэнды”, „Самаразвіццё”, „Тонус”, „Бардачок”. Апошнія артыкулы ва ўсіх рубрыках ідуць ніжэй і ўперамешку. Дзяленне бачна, калі пракруціць выяўленне яшчэ ніжэй. Адметна, што кожная рубрыка аддзелена ад папярэдняй тызерам галоўнага артыкула. Таксама прыемна ўражвае, што артыкулы аздоблены фотаздымкамі і нават відэасюжэтамі.

Сайт мае опцыю, якая дазваляе праглядаць анонсныя паведамленні таго, што было апублікавана раней. Для таго, каб іх пабачыць, трэба клікаць на словы „Больш навін” у рамцы ўнізе цэлага выяўлення.

Сайт „Нашай Ніны” сапраўды напоўнены разнастайнай і даволі цікавай інфармацыяй. Верагодна, што новы рэсурс, які ўзнік у сёлетнім верасні, будзе цікавым не толькі жанчынам, але і мужчынам. Апошніх яна можа прывабіць увасабленнем абранага стваральніцамі прынцыпу. „Ніна” — гэткая суперrжанчына, зборны вобраз беларусак, для якой няма межаў ні ў галаве, ні навокал. З ёй можна пасмяяцца і абмеркаваць вострыя тэмы, ёй можна пажаліцца, у яе можна папрасіць парады ці адказу на любое пытанне”, — сцвярджаюць аўтары новага праекта.

Аляксандр ЯКІМЮК

Дата з Календара Дата з Календара Дата з Календара Дата з Календара Дата з Календара

Пражыла стагадовую эпоху



## 125 гадоў з дня нараджэння
# Зоські Верас

Беларуская пісьменніца, грамадска-культурная дзяячка Зоська Верас (сапраўднае: ЛюдвікаАнтонаўнаСівіцкая-Войцік) нарадзілася 30 верасня 1892 г. у мястэчку Мяджыбаш (цяпер Лятычаўскі раён Жытомірскай вобласці, Украіна). Паходзіла з сям'і вайскоўца Антона Сівіцкага і Эміліі Садоўскай. Дзед Людвікі па маці Людвік Садоўскі быў знакамітым пчаляром і садаводам, вучыўся ў Варшаве, добра ведаў беларускую мову і карыстаўся ёю ў размовах. Бацька Антон родам з Гародні, называў сябе ліцвінам, шмат чытаў, любіў паэзію. Пачатковую адукацыю, у тым ліку і музычную, Людвіка атрымала дома. У 1904 г. паступіла ў прыватнае гандлёвае вучылішча Л. Валадкевіч у Кіеве. У 1905 г. жыла ў Луцку на Валыні. Пасля смерці бацькі ў 1908 г. пераехала разам з маці ў родавы маёнтак Альхоўнікі (па іншых крыніцах — маёнтак Крыштапарова) на Сакольшчыне. У 1912 г. скончыла прыватную жаночую гімназію Кацярыны Баркоўскай, якая месцілася ў камяніцы Стэфана Баторыя ў Гародні, а ў 1914 г. — 10-месячныя садоўніцка-агародніцка-пчалярскія курсы і 6-тыднёвыя ваенныя санітарныя курсы ў Варшаве.

Зоська Верас — удзельніца Гарадзенскага гуртка беларускай моладзі (1909-1913), дзе працавала бібліятэкаркай і сакратаркай. У гуртку грала ў пастаноўках розных п'ес. Удзельнічала ў выданні альманаха „Колас беларускай нівы” (1913). Кантактавала з газетай „Наша ніва”, віленскімі выдавецтвамі. З 1915 г. у Менску. Працавала ў беларускіх арганізацыях. Пазнаёмілася з беларускім дзеячам Фабіянам Шантырам, з якім завязаліся рамантычныя адносіны. Яго яна называла сваім мужам, хоць аформіць адносіны не ўдалося. У канцы 1918 г. пакідае Менск з прычыны хваробы маці і вяртаецца ў маёнтак дзеда — Альхоўнікі. У 1919 г. у Зоські Верас нарадзіўся сын Антон, яго бацька Фабіян Шантыр быў расстраляны ў 1920 г. У 1922 г. пасля смерці дзеда маёнтак давялося прадаць. У 1923 г. у лясным масіве на Панарскіх узгорках пад Вільняй Людвіка разам з Антонам Войцікам пабудавалі прасторную хатку з галінак дрэў, абмазаных глінай так, як гэта рабілася ва Украіне. У 1926 г. яны пажаніліся і павянчаліся. У гэтым шлюбе нарадзілася дачка Галіна, па мужу — Луцкевіч.

У 1920-1930-х гадах Зоська Верас працавала ў віленскіх газетах, часопісах, грамадскіх арганізацыях. Апекавалася беларускімі палітычнымі вязнямі, якія сядзелі ў віленскай турме „Лукішкі”. Вынесла адтуль вершы Міхася Машары і выдала за свой кошт яго першы зборнік „Малюнкі”. Друкавала свае творы ў часопісах „Шлях моладзі”, „Студэнцкая думка”, дзе выступала разам з Наталляй Арсенневай.

У 1946 годзе сына Антона Шантыра арыштавалі і асудзілі. Ні маці, ні сястра не ведалі, дзе знаходзіцца Антон і што з ім. Пасля таго, як у 1944 г. была зачынена Віленская беларуская гімназія, а ў 1945 г. ліквідаваны Беларускі музей імя Івана Луцкевіча, а ў 1948 г. раптоўна памёр муж, у жыцці пісьменніцы наступіў цяжкі перыяд, які пазней яна назвала „летаргічным сном”. У 1956 г. Антон нечакана вярнуўся дамоў са сталінскіх лагераў, цяжка хворы: 10 гадоў ён быў пазбаўлены права ліставацца з маці.

У канцы 1980-х гг. вакол Зоські Верас гуртавалася беларуская інтэлігенцыя Вільні. У 1988 г. Зоська Верас разам з зяцем Лявонам Луцкевічам утварылі спачатку клуб „Сябрына”, а ў 1989 г. было заснавана Таварыства беларускай культуры ў Літве. Памерла яна 8 кастрычніка 1991 г., пахавана на Панарскіх могілках у Вільні побач з магіламі маці, мужа і сына.

Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ

TEATRALNY FESTYVAL ODE
BIELSK PADLAŠSKI • BIEŁASTOK • HAJNAŬKA
24.IX – 10.X.2017

# PRAHRAMA FESTYVALU

**24 WRZEŚNIA (NIEDZIELA)**

18:00 „PustaJa" – Teatr Czrevo
Miejsce: Hajnowski Dom Kultury (Hajnówka)

**25 WRZEŚNIA (PONIEDZIAŁEK)**

9:00 – „Andersen po-svojomu" – Teatr Czrevo – czytanie bajek
Miejsce: Dom Kultury Prawosławnej (Bielsk Podlaski)

10:30 – „Andersen po-svojomu" – Teatr Czrevo – czytanie bajek
Miejsce: Dom Kultury Prawosławnej (Bielsk Podlaski)

12:00 – „PustaJa" – Teatr Czrevo
Miejsce: Hajnowski Dom Kultury (Hajnówka)

**26 WRZEŚNIA (WTOREK)**

18:00 – PREMIERA „Vovčok Movčok" –Teatr Czrevo,
Miejsce: Teatr Dramatyczny (Białystok)

**27 WRZEŚNIA (ŚRODA)**

11:00 – „Dobry dzień, Jarasłaŭ Vasillevicz"
– Grupa teatralna z Zespołu Szkół z DNJB w Bielsku Podlaskim,
Miejsce: Teatr Dramatyczny (Białystok)

18:00 – „Dobry dzień, Jarasłaŭ Vasillevicz"
– Grupa teatralna z Zespołu Szkół z DNJB w Bielsku Podlaskim,
Miejsce: Teatr Dramatyczny (Białystok)

**28 WRZEŚNIA (CZWARTEK)**

10:00 – „Darožnyja pryhody Vity" – Kazački baj! (Mińsk, Białoruś)
+ warsztaty teatralne dla dzieci
Miejsce: Teatr Dramatyczny (Białystok)

12:00 – „Darožnyja pryhody Vity" – Kazački baj! (Mińsk, Białoruś)
+ warsztaty teatralne dla dzieci
Miejsce: Teatr Dramatyczny (Białystok)

18:00 — „Popiół i pamięć. 1946" – Teatr Czrevo
– czytanie performatywne
Miejsce: Muzeum Białoruskie (Hajnówka)

**29 WRZEŚNIA (PIĄTEK)**

9:00 – „Darožnyja pryhody Vity" – Kazački baj! (Mińsk, Białoruś)
+ warsztaty teatralne dla dzieci
Miejsce: Dom Kultury Prawosławnej (Bielsk Podlaski)

10:30 – „Darožnyja pryhody Vity" – Kazački baj! (Mińsk, Białoruś)
+ warsztaty teatralne dla dzieci
Miejsce: Dom Kultury Prawosławnej (Bielsk Podlaski)

13:00 – „Popiół i pamięć. 1946" – Teatr Czrevo
– czytanie performatywne
Miejsce: Muzeum Białoruskie (Hajnówka)

**2 PAŹDZIERNIKA (PONIEDZIAŁEK)**

13:00 – „Pajsci i nie viarnucca" – Tutejszy Teatr (Białoruś)
Miejsce: Hajnowski Dom Kultury (Hajnówka)

**3 PAŹDZIERNIKA (WTOREK)**

13:00 – „Pajsci i nie viarnucca" – Tutejszy Teatr (Białoruś)
Miejsce: Bielski Dom Kultury (Bielsk Podlaski)

**4 PAŹDZIERNIKA (ŚRODA)**

13:00 – „Romeo i Julia" – Teatr z Muzeum Białoruskiego
Miejsce: Muzeum Białoruskie (Hajnówka)

18:00 – „Romeo i Julia" – Teatr z Muzeum Białoruskiego
Miejsce: Muzeum Białoruskie (Hajnówka)

**5 PAŹDZIERNIKA (CZWARTEK)**

10:00 – „Romeo i Julia" – Teatr z Muzeum Białoruskiego
Miejsce: Muzeum Białoruskie (Hajnówka)

13:00 – „Romeo i Julia" – Teatr z Muzeum Białoruskiego
Miejsce: Muzeum Białoruskie (Hajnówka)

**7 PAŹDZIERNIKA (SOBOTA)**

19:00 – „Dzionnik paeta" – Teatr Białoruskiej Dramaturgii
(Mińsk, Białoruś) w ramach projektu Teatru Dramatycznego
„Kierunek Wschód"
Miejsce: Teatr Dramatyczny (Białystok)

21:00 – Jubileusz 30-lecia pracy dramaturgicznej
Siarhieja Kavalova
Miejsce: Teatr Dramatyczny (Białystok)

**8 PAŹDZIERNIKA (NIEDZIELA)**

19:00 – „Białoruś. Dydaktyka" – Teatr Białoruskiej Dramaturgii
(Mińsk, Białoruś) w ramach projektu Teatru Dramatycznego
„Kierunek Wschód"
Miejsce: Teatr Dramatyczny (Białystok)

**9 PAŹDZIERNIKA (PONIEDZIAŁEK)**

10:00 – „Šlach da Batlejema" – Grodzieński Teatr Lalek (Białoruś)
Miejsce: Białostocki Teatr Lalek (Białystok)

**10 PAŹDZIERNIKA (WTOREK)**

11:00 – „A mnie nie soramna" – Teatr Białoruskiej Dramaturgii
(Mińsk, Białoruś) Miejsce: Teatr Dramatyczny (Białystok)

**Na wszystkie spektakle wstęp jest bezpłatny. Prosimy o rezerwowanie biletów pod adresem e-mail teatr@czrevo.pl, lub pod nr telefonu: 511673151 — Joanna Troc — prezes Fundacji Teatr Czrevo.**

# Адгаданка

| | | | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | 1 | | | | | | | | 2 | | | |
| | | 3 | | | | | | | | 4 | | | | 5 |
| | | | 6 | | | | 7 | | | | | | | |
| | | | | | | 8 | | | | | | 9 | | |
| 10 | | | 11 | | | 12 | | | | 13 | | | | 14 |

**1.** паломніцтва мусульман у Мекку, **2.** шахматная „маланкавая" партыя, дзе гульцам адведзена найчасцей па пяць хвілін кожнаму, **3.** будынак гарадской рады, **4.** старазапаветны прарок, спадарожнік прарока Ільі, **5.** касцяк, **6.** партнёр купца, **7.** сталіца вальса, **8.** амерыканская грашовая адзінка, 9. разумны чалавек, **10.** капальня, **11.** лісцевае дрэва з шышачкамі, якое расце ў сырых месцах, **12.** адмоўная якасць, **13.** станоўчая якасць, **14.** не сінтэз.

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — беларуская пагаворка. **(ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 37 нумара**

Агра, бура, Быхаў, віза, Ліма, надзея, рукаў, сені, Сож, тэма, Шо, Ямал.

Рашэнне: **Калі арэхаў шмат, а грыбоў мала, зіма будзе снежная і суровая**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Анне Дэм'янюк** з Бельска-Падляшскага і **Міхалу Байко** з Беластока.

# 01.10 — 07.10

**(22.03. — 20.04.)** Вазьмі пад кантроль свае эмоцыі і не панікуй. Прычын для перажыванняў не будзе. Займіся навядзеннем парадку дома, на працы і ў галаве. Правільна расстаў прыярытэты і вызнач напрамкі. Не лянуйся і не скупіся на новыя ідэі. Будзь уважлівым да людзей і прапаноў. Калі табе запрапануюць вельмі выгадны праект, высветлі ўсе падрабязнасці. Глядзі глыбей, абмінаючы прывабную абалонку.

**(21.04. — 21.05.)** Час стабільны ва ўсіх адносінах. Можаш расслабіцца і займацца сваімі справамі. Усе твае працоўныя інвестыцыі будуць шчодра ўзнагароджаны, таму ўкладай усю душу ў тое, што робіш. Зможаш раскрыць свой патэнцыял, удасканаліць свае навыкі і прымножыць веды. Час для паспяховых пошукаў свайго пакліканння. Вер, што няма нічога немагчымага, было б жаданне!

**(22.05. — 22.06.)** Будзеш аўтарам сцэнарыя ўласнага жыцця. Больш мар і стаў перад сабой вялікія мэты. Маеш усё, каб ажыццявіць сваю даўнюю мару. Сканцэнтруй сваю ўвагу на канчатковым выніку. Прадстаўляй сябе паспяховым і самадастатковым чалавекам. Раскрый свой творчы патэнцыял, таленты, паспрабуй сілы ў іншых кірунках.

**(23.06. — 23.07.)** Тое, на чым раней ты зацыкліўся і да чаго імкнуўся, стане другарадным або не будзе мець значэння. Памяняюцца прынцыпы і маральныя асновы, прыярытэты і пачнеш рухацца ў правільным кірунку, здабываючы больш карысці для сябе і навакольных. Будуць цябе прыводзіць у прыклад і на цябе раўняцца. Пераможаш ляноту і зробіш крок насустрач свайму шчасліваму лёсу.

**(24.07. — 23.08.)** Перамены ў жыцці ва ўсіх сферах. Нечаканая сустрэча са старым сябрам, раптоўная згода на тваю прапанову, або выйгрыш у латарэю, або атрыманне спадчыны, выгадныя дзелавыя прапановы або адкрыццё новых здольнасцей і талентаў. Правільна адрэагуй на непрадбачаныя абставіны. Жыві поўным жыццём, радуйся кожнаму імгненню, ідзі да людзей. Імкніся да дасканаласці.

**(24.08. — 23.09.)** Час пройдзе спакойна. Будзеш адчуваць сябе лёгка і свабодна. Не варта турбавацца аб тым, каб усюды паспяваць, і так усё зробіш. Будзь сабраным і сканцэнтруйся на чымсьці адным. Выдатны настрой. Магчыма, наведае цябе муза. Будзеш знаходзіцца ў цэнтры ўсеагульнай увагі, больш самаўпэўненым і самадастатковым.

**(24.09. — 23.10.)** Не трэба прыкладаць шмат намаганняў, каб узяць ад жыцця як мага больш. Будуць паступаць самыя арыгінальныя і нестандартныя прапановы, якія змогуць задаволіць тваю прагу прыгод і адрэналіну. Але будуць і такія, якія прымусяць усумніцца ў абавязковасці твайго ўдзелу ў іх. Пачуццё задавальнення і эйфарыі. Будзеш арганізаваць свой побыт і працоўнае месца, каб яны сталі камфортнымі і ўтульнымі.

**(24.10. — 22.11.)** Можаш адправіцца ў падарожжа. Паспрабуй загадзя ўсё спланаваць і падрыхтаваць, будзь прадбачлівым, каб пасля не мітусіцца. Калі маеш запланаванае мерапрыемства, а справа не ідзе, перанясі яго на больш спрыяльны перыяд або зусім адмяні. Шыкуецца табе поспех. Поспех цябе любіць! Слухай свой унутраны голас. У тваім жыцці ўсё проста і празрыста, толькі расстаў прыярытэты і дзейнічай у патрэбным кірунку, паслядоўна і лагічна.

**(23.11. — 22.12.)** З'явіцца шмат магчымасцей, выкарыстаўшы якія зможаш наблізіцца да сваёй мэты. Складзі дакладны план дзеянняў і вызнач канкрэтныя мэты. Не марнуй часу на ўдзел у няўцямных спрэчках і канфліктах. Не бяры дадатковых заданняў і адказнасці за іх выкананне на сябе. Мусіш адпачываць. Беражы свае сілы, вельмі спатрэбяцца ў гэтым месяцы.

**(23.12. — 20.01.)** Найбольшыя намаганні прыкладвай да ўласнага развіцця, асобаснага росту і самарэалізацыі. Шмат хто ў гэты перыяд знойдзе працу, дзякуючы якой забяспечыць сабе нябеднае жыццё ды раскрые свой патэнцыял. Але на ўсё патрэбны час. Будзь цярплівым, мэтанакіраваным і ўпэўненым у шчаслівым зыходзе справы.

**(21.01. — 19.02.)** Лёгка і проста будуць давацца вырашэнні любых пытанняў і задач. Усё будзе складвацца найлепшым чынам. Але не варта быць занадта саманадзейным і спадзявацца выключна на сваё шанцаванне. Зрабі што-небудзь сам. Памятай: тое, што лёгка прыходзіць, таксама лёгка і сыходзіць. Можа выпасці магчымасць адправіцца ў паездку за мяжу — не варта адмаўляцца ад такой прапановы.

**(20.02. — 21.03.)** Больш адпачывай і кладзіся спаць своечасова, бо будзеш спазняцца на важныя сустрэчы і на працу. Будзе шмат магчымасцей і сустрэч, якія зменяць жыццё Рыб у лепшы бок, падвысяць яго якасць, напоўняць незабыўнымі ўражаннямі. Засяродзься на адной канкрэтнай мэце і накіруй усю сваю энергію на яе дасягненне, бо большая частка спраў, якія адымаюць у цябе шмат часу, зусім непатрэбная. Прааналізуй сваё жыццё за апошнія месяцы і папрацуй над памылкамі і промахамі. Набярыся смеласці і ўпэўненасці, каб адстойваць сваё меркаванне.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714
**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2,
ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA" oraz „GARMOND PRESS", siedziba redakcji „Niwy".
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA", „KOLPORTER", „RUCH" — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy" — kwartalna 60 zł., półroczna 120 zł., roczna 240 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.
**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje:**
**Rada Programowa Tygodnika „Niwa",**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład:** 1 000 egz.

# Студзіводы Сегяневічаў

**«Студзіводы Сегяневічаў», — пад такім загалоўкам 16 верасня адбылася ў Музеі малой айчыны ў Студзіводах канферэнцыя, прымеркаваная мінуламу Студзіводаў, якія зараз з'яўляюцца жылым кварталам Бельска-Падляшскага. Галоўным выступленнем быў даклад прафесара Антона Міранoвіча з Універсітэта ў Беластоку пра значэнне роду Сегяневічаў для Студзіводаў, Бельскай зямлі і цэлага Падляшша. Дарафей Фіёнік прааналізаваў датычныя Студзіводаў запісы метрычных кніг Прачысценскай царквы ў Бельску-Падляшскім. Запрэзэнтаваў ён таксама чарговы 55 нумар выдання «Бельскі гостінэць», які пачынае адзначаць дваццатую гадавіну выхаду першага нумара. Войцех Канoньчук з Варшавы распавёў пра пазнейшага ўладальніка Студзіводаў Феліксa Траяноўскага. Канферэнцыі спадарожнічалі дзве выставы мастакоў з Рэспублікі Беларусь — скульптуры Міколы Тарасюка са Стойлаў ды скульптуры і карцін Івана Супрунчука. З Беларусі ў Студзіводы прыехалі таксама акцёры, сужонства Ларыса і Аляксандр Быцко, якія займальна запрэзэнтавалі тэатральны спектакль пра Міколу Тарасюка. Перад сабранымі выступіў яшчэ Народны хор імя Алеся Рашчынскага з Мінска.**


■ Прафесар Антон Міранoвіч (злева) і Дарафей Фіёнік

Канферэнцыя праходзіла ў мяшчанскай хаце, а выступленні акцёраў і спевакоў адбыліся ў клуні **Дарафея Фіёніка**, прыстасаванай для сцэнічных мэт. Сабраным на канферэнцыі Дарафей Фіёнік раздаваў надрукаваны Прывілей ад 1514 года караля Жыгімонта I на «жэраб студзіводскай зямлі».

— Не было б гісторыі Студзіводаў, калі б не феномен роду Сегяневічаў. У 1514 годзе бельскі мешчанін Іван Сегяневіч, пазнейшы бельскі войт, атрымаў ад караля і вялікага князя Жыгімонта I пацвярджэнне права на вечнае валоданне студзіводскай зямлёй, якую атрымаў яго дзед Пратас Тышкевіч ад караля Аляксандра Ягелончыка, што было запісана ў Літоўскай метрыцы, — заявіў старшыня аб'яднання Музей малой айчыны ў Студзіводах Дарафей Фіёнік. — Гэта дзякуючы айцу Рыгору Сасну мы тут пачалі і прадаўжаем займацца мясцовай гісторыяй. У гэтай хаце была адкрыта і дзейнічае выстава і бібліятэка, прысвечаная айцу Рыгору, які частку кніжак і сваіх матэрыялаў перадаў у наш музей. Сёння тут прысутная матушка Антаніна Троц-Сасна.

Дарафей Фіёнік прывітаў сабраных, сярод якіх былі доктар Міхал Лісоўскі, рэктар Вышэйшай менеджарскай школы ў Беластоку і скульптар з Беларусі Анатоль Туркоў. На канферэнцыю прыйшлі перш за ўсё жыхары Студзіводаў і Бельска, зацікаўленыя гісторыяй Падляшша. Канферэнцыя пачалася з даклада прафесара **Антона Міранoвіча**, прысвечанага Івану Сегяневічу і іншым уладальнікам Студзіводаў з мяшчанскага роду Сегяневічаў.

— Прадстаўнік мяшчанскага роду, аднаго з найбольш знатных родаў Падляшша, Іван Сегяневіч у 1514 годзе атрымаў ва ўладанне Студзіводы ад караля Жыгімонта I, што было пацверджана згодай на пажыццёвае валоданне Студзіводамі. Іван Сегяневіч і яго нашчадкі, якія валодалі Студзіводамі, збудавалі мураваную Дабравешчанскую царкву ў Супраслі, а раней царкву ў Гарадку. Іван Сегяневіч і яго браты Васіль і Цімафей мелі вялікае ўздзеянне на царкоўнае і палітычнае жыццё на Падляшшы і па-за яго межамі. Пафнуцій Сегяневіч, калі назіраў за пабудовай царквы ў Супраслі, меў ужо духоўную практыку здабытую ў манастырах на Афоне і ў Кіева-Пячэрскай лаўры. Пазней Пафнуцій стаў Уладзімірска-Брэсцкім епіскапам і тады здабыў таксама аграмадную палітычную пазіцыю на Валыні. Яшчэ даклада не было высветлена, але Іван Сегяневіч, мабыць, быў двaюрадным братам епіскапа Пафнуція. Дзякуючы епіскапу, меў ён вялікую палітычную падтрымку ў сваіх бізнесовых дзеяннях. Род Сегяневічаў у гэты перыяд быў намнога багацейшы за род Хадкевічаў і мог раўняцца з магнацкімі родамі Астрожскіх, Вішнявецкіх, Чартарыйскіх. Атрымаўшы ад караля згоду на высечку Заблудаўскай пушчы і лясоў над Нарвай і Нёманам Іван Сегяневіч і яго род оптам прадавалі драўніну. Сегяневічы кіравалі таксама мытнямі ў Драгічыне, Тыкоціне, Нарве і іншых мясцовасцях на раках Нарва і Буг, па якіх сплаўлялі драўніну. Дайшлі яны тады да вялікай палітычнай і эканамічнай пазіцыі. Пасля смерці епіскапа Пафнуція значэнне роду Сегяневічаў са Студзіводаў пачало паніжацца. Пераемнікі маёнтка Івана Сегяневіча сталі нават яго прадаваць, — распавядаў падчас даклада прафесар Антон Міранoвіч з Універсітэта ў Беластоку.


■ Скульптар з Беларусі Анатоль Туркоў

**Войцех Канoньчук** з Варшавы распавёў пра пазнейшага ўладальніка Студзіводаў Феліксa Траяноўскага, які быў пaслом Сойма і ўладальнікам Круглага ў другой палове васямнаццатага стагоддзя. Дакладчык гаварыў пра сувязі Феліксa Траяноўскага з каралём Польшчы Станіславам Аўгустам Панятоўскім, які даручаў Траяноўскаму распрацоўку законапраектаў.

Дарафей Фіёнік запрэзэнтаваў запісы метрычных кніг Прачысценскай царквы ў Бельску-Падляшскім перыяду другой паловы сямнаццатага і часткі васямнаццатага стагоддзяў, якія тычыліся Студзіводаў. Пасля войнаў і эпідэмій, якія пракаціліся таксама праз Бельскую зямлю, у Студзіводах засталося мала сем'яў, але іх лік з часам стаў большаць.

— З бельскай царквой Нараджэння Прасвятой Багародзіцы Студзіводы былі спалучаны ад моманту іх заснавання і таму ў метрычных кнігах Прачысценскай царквы можна знайсці цікавыя і важныя звесткі аб Студзіводах. Са Студзіводаў выводзілася падляшская інтэлігенцыя, якая садзейнічала развіццю Бельска і Падляшша, — гаварыў Дарафей Фіёнік.

Двор Сегяневічаў распалoжаны быў прыблізна на скрыжаванні цяперашніх вуліц Студзіводскай і Ланковай, а іх маёнтак займаў каля 300 гектараў зямлі. Праз маёнтак пралягаў важны гасцінец з Бельска ў Мельнік, што можна будзе ўбачыць на барэльефе, які пачаў выконваць на музейным панадворку ў Студзіводах скульптар з Беларусі **Анатоль Туркоў**. Студзіводы ў шасцідзясятых гадах мінулага стагоддзя былі далучаны да Бельска-Падляшскага і зараз з'яўляюцца важным яго жылым кварталам. У Музеі малой айчыны ў Студзіводах прэзентуюцца беларуская культура, нашы традыцыі і мясцовая гісторыя. Гэтая тэматыка ад дваццаці гадоў прысутнічае на старонках краязнаўча-культурнага выдання «Бельскі гостінэць», які выдае Студзіводскі музей. Дарафей Фіёнік распавёў пра змест навейшага 55 нумара. Якраз гэты нумар пачынае адзначаць дваццатую гадавіну выдавання «Бельского гостінця». Галоўнае святкаванне адбудзецца ў наступным годзе, паколькі прэзентацыя першага нумара «Бельского гостінця» адбылася 3 лютага 1998 года падчас Сустрэч «Зоркі». Дарафей Фіёнік заахвочваў прачытаць у «Бельскім гостінцы» архіўную працу пра жыццё мясцовых беларусаў «Мясцовы этнаграфічны вопіс Бельскага ўезда», якую напісаў настаяцель Старакарнянскай парафіі айцец Келясцін Брэн у дзевятнаццатым стагоддзі. Яго сын, айцец Яраслаў Брэн, апісаў рэлігійнае жыццё ў працы «Асаблівасці рэлігійнага жыцця мужыкоў Бельскага ўезда», якая таксама змешчана ў згаданым выданні.

— Абедзве працы — сёння адны з найважнейшых пазнавальных крыніц культуры падляшскіх беларусаў у мінулым. Дапаўняючы сябе, абедзве працы паказваюць праўдзівую духоўна-культурную карціну нашага грамадства 120-гадовай даўнасці. Новы нумар узбагачваем кампакт-дыскам з традыцыйнымі песнямі Падляшша ў выкананні Надзеі Сахарчук з Малінніка. Публікуем таксама фрагменты яе ўспамінаў, поўныя тэксты песень і апісанне вясельных абрадаў, якія дваццаць гадоў таму передала нам Надзея Сахарчук. З'яўляюцца яны своеасаблівым дапаўненнем тэкстаў айцоў Келясціна і Яраслава Брэнаў, — заявіў Дарафей Фіёнік. Пасля канферэнцыі на паддашку мяшчанскай хаты можна было пaглядзець дзве выставы — скульптуры Міколы Тарасюка са Стойлаў ды скульптуры і карцін Івана Супрунчука, пра якія распавядаў сабраным разьбяр Анатоль Туркоў.

— Мікола Тарасюк за сваё жыццё выканаў шмат скульптурных прац, якія паказваюць жыццё вёскі Палесся. Перад смерцю якраз ён сам у вёсцы Стойлы. Наша аб'яднанне Любіцелі мастацтва рэгіёна Белавежскай пушчы і Брэстчыны «Тур» прысвоіла ордэн «За вернасць Бацькаўшчыне» (такія ордэны атрымалі таксама жыхары Беласточчыны — паэт Віктар Швед з Беластока і жывапісец Анатоль Краўчук з Крывой — А. М.). Зусім іншая скульптура Івана Супрунчука, на якога карціны таксама можаце тут пaглядзець. Я каля вясковай хаты Студзіводскага музея рыхтуюся да выкaнання вялікага барэльефу, на якім будзе выява Студзіводскай панарамы з мінулага, з мясцовасцямі Студзіводы, Бельск, Брэст і Мельнік. Будзе там між іншым постаць Івана Сегяневіча. Выканаў я ўжо дошкі, да якіх буду прымацоўваць барэльефы, зрабіў дах над імі і лавачку, на якой можна будзе прысесці і адпачыць, — распавядаў скульптар, старшыня аб'яднання «Тур» Анатоль Туркоў, які раней выканаў тры разныя работы, што знаходзяцца на панадворку Студзіводскага музея.



Пасля перапынку, калі сабраныя маглі пазнаёміцца з экспанатамі вясковай і мяшчанскай хат Студзіводскага музея і пашпацыраваць па Студзіводах, у клуні Дарафея Фіёніка адбылася прэзентацыя батлейкі — тэатральнага спектакля пра Міколу Тарасюка, у якім акцёрамі былі сужонства Ларыса і Аляксандр Быцко, арганізатары і апекуны музея Міколы Тарасюка ў Стойлах.

— Наш вядомы журналіст Мікола Пракаповіч напісаў сцэнарый батлейкі пра Міколу Тарасюка. З гэтым тэатральным спектаклем выступалі мы ў Беларусі. Паколькі Мікола Тарасюк вядомы ў Студзіводах, паказваем яго таксама тут, у Студзіводскім музеі, — сказала намеснік старшыні аб'яднання «Тур» **Ларыса Быцко** з Брэста.

Перад сабранымі выступіў яшчэ Народны хор імя Алеся Рашчынскага з Мінска, якога рэпертуар састаўляюць аўтарскія творы і беларускія народныя песні. Арганізатарам канферэнцыі быў Музей малой айчыны ў Студзіводах і адбывалася яна ў рамках Еўрапейскіх дзён спадчыны і III Дзён культуры славянскага пісьменства.

Тэкст і фота **Аляксея МАРОЗА**

ISSN 0546-1960 40